ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 МАЯ 1996 г. № 18 (3842) Кошт 2 500 руб.

## COLCHOZUM VETO

***Алесь ЧОБАТ: “Любоў да Расіі — гэта любоў да панскага двара. Кожны народ некага любіць больш, а некага менш — гэта нармалёва. Але староннягa адкуль-небудзь з Еўропы сацыёлага проста шакіруе разрыў любові беларусаў да Расіі і падазронасці ці нават варожасці да іншых сваіх суседзяў, і лезуць яны, бедныя сацыёлагі, у нейкую бездань, у карані, у праваслаўе, у гены... На самай справе любоў беларусаў да Расіі — гэта любоў збяднелага мужыка да панскага двара; дарэчы, колькі раз за гэтыя гады я чуў “Как же мы без России!” і аніводнага разу “Как же мы без русских!”...***

**5, 12**

## АНКЕТА "ЛіМа"

***Галіна БАГДАНАВА-САЧАНКА: “Пісьменнікі, душа, гонар нацыі, адлучаныя ад свайго народа. Кім? Навошта? Такое не снілася і жыхарам самае нецывілізаванае краіны”.***

**6—7**

## “ЯК ВЕРЫЎ, ВЕРУ ТВАЁЙ ПЕСНІ...”

***Новыя вершы Алега ЛОЙКІ***

**8**

## НА РАДЗІМЕ

***Мроя Алеся АСТАШОНКА***

**16**

### *БУДЗЬМА РАЗАМ!*

Шаноўныя прыхільнікі “ЛіМа”!

Працягваецца падпіска на наш штотыднёвік на другое паўгоддзе 1996 года. Аформіць падпіску, калі не выпадае адразу цалкам, можна спачатку на некалькі месяцаў, а затым прадоўжыць. Падпісны кошт на адзін месяц — **7000 рублёў**, на квартал — **21000 рублёў**; на паўгоддзе — **42000 рублёў**.

**Наш індэкс — 63856.**



***Чаканне...***

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА

# ЛЁС МОВЫ — ЛЁС НАРОДА

Апошнім часам усё настойлівей чуваць голас свядомых беларусаў у абарону роднай мовы. На жаль, з кожным днём для занепакоенасці з'яўляецца і ўсё больш падстаў. Дзяржаўныя чыноўнікі па сутнасці ігнаруюць выкананне прынятых у 1990 годзе — Закона аб мовах, а годам пазней — Закона аб адукацыі, што былі скіраваны на развіццё беларускай мовы, нацыянальнай літаратуры. У сувязі з такім складаным становішчам не могуць не выказваць сваёй трывогі і беларускія пісьменнікі, якіх заўсёды хвалявалі пытанні нацыянальнага Адраджэння і якія пастаянна памятаюць, што лёс мовы — лёс самога народа, што любоў да яе неабходна прывіваць і выхоўваць змалку.

Пацвярджэнне гэтай занепакоенасці — і нядаўняе пашыранае пасяджэнне прэзідыума рады СП, на якім галоўным стаяла пытанне: "Беларуская мова ў школе сёння".

Вёў пасяджэнне сакратар СБП У. Паўлаў. З дакладам выступіў М. Мішчанчук. У гаворцы прынялі актыўны і зацікаўлены ўдзел народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, народныя пісьменнікі Я. Брыль і Шамякін, В. Адамчык, Г. Бураўкін, М. Грынчык, Г. Далідовіч, Г. Дзмітрыеў, А. Клышка, А. Рагуля...

Адзначалася, што наданне пасля вядомага ў краіне рэферэндуму роўнага статуса беларускай і рускай мовам, на жаль, пайшло не на карысць роднай мове. Скарачаецца колькасць беларускіх класаў і школ, беларускамоўных дзіцячых садоў, рэзка знізіўся выпуск літаратуры на беларускай мове, пачалося стварэнне новых падручнікаў, па сваім змесце далёкіх ад нацыянальнага жыцця, Адраджэння.

Прэзідыум рады СП прыняў па гэтым пытанні спецыяльную пастанову.

На пашыраным пасяджэнні выступілі старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры У. Плецюхоў і галоўны інспектар па беларускай мове і літаратуры Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Т. Саўчук.

# ВЯРНУЦЬ НАДЗЕЮ

## ПАСТАНОВА ПАШЫРАНАГА ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Заслухаўшы і абмеркаваўшы пытанне аб стане выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школах Рэспублікі Беларусь, удзельнікі пашыранага пасяджэння прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў адзначаюць як станоўчы факт прыняцце Вярхоўным Саветам Беларусі ў свой час Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, якія заканадаўча вызначылі значэнне і месца беларускай мовы ў школьным навучанні і выхаванні, у дэмакратычным развіцці нашага грамадства. Усё гэта дазваляла з надзеяй глядзець на будучыню роднага слова, на няўхільны поступ духоўнага адраджэння Бацькаўшчыны.

Аднак з глыбокім болем і трывогай удзельнікі пасяджэння прыводзілі шматлікія факты паўсюднага скарачэння ў апошні час беларускамоўных школ і класаў, навучальных праграм і планаў па роднай мове і літаратуры. Рэзка ўпаў выпуск мастацкіх твораў беларускіх класікаў і сучасных паэтаў і празаікаў. Запаволілася, а то і прыпынілася праца над стварэннем падручнікаў і метадычных дапаможнікаў для школ і сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Так і не наладжана падрыхтоўка дастатковай колькасці беларускамоўных настаўнікаў па гісторыі, геаграфіі, біялогіі, матэматыцы і іншых прадметах... Дзяржава не праяўляе пры гэтым належнай увагі да развіцця дзяржаўнай мовы краіны, а часам у выступленнях і падводзінах сваіх высокіх прадстаўнікоў дапускае нават непавагу да яе.

Улады Рэспублікі Беларусь не хочуць разумець трагедыйнага становішча беларускай мовы ў школе, калі сёння ў класах з беларускай мовай выкладання навучаецца толькі чвэрць усіх першакласнікаў, калі ва ўсіх гарадах рэспублікі зноў працуе ўсяго толькі пяць (!) сярэдніх школ на беларускай мове.

Удзельнікі пашыранага пасяджэння прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў лічаць такое становішча недапушчальным і патрабуюць ад Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя меры для строгага захавання Канстытуцыі краіны і законаў аб мовах і адукацыі.

У прыватнасці, неабходна:

1. Запатрабаваць ад Міністэрства адукацыі і навукі (міністр В. Стражаў) забяспечыць дакладнае выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь;
2. Прадугледзець у навучальных праграмах аднолькавую колькасць гадзін для вывучэння беларускай і рускай мовы і літаратуры ва ўсіх школах краіны;
3. Увесці абавязковыя выпускныя экзамены па беларускай і рускай мове і літаратуры ва ўсіх школах Рэспублікі Беларусь;
4. Увесці абавязковыя ўступныя экзамены ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны па беларускай і рускай мовах (выбар можа быць толькі ў форме — пісьмовай або вуснай);
5. Пры паступленні на дзяржаўную службу ў Рэспубліцы Беларусь патрабаваць ад усіх свабоднага валодання беларускай і рускай мовамі.

Прынята аднагалосна.

*25 красавіка 1996 г.*

Віншуем!

# ЗВАННЕ ГАНАРОВАГА ДОКТАРА — БАРАДУЛІНУ

Яшчэ 27 лістапада 1995 года Савет БДУ прысудзіў народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну за выдатныя дасягненні ў беларускай паэзіі і айчыннай філалогіі званне ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А ўрачыстае ўручэнне Рыгору Іванавічу ў сувязі з гэтым спецыяльнага дыплома адбылося 29 красавіка.

Аднаго з самых выдатных прадстаўнікоў сучаснай беларускай літаратуры, паэта, які па праву з'яўляецца ў ёй правафланговым, шчыра, ад усяго сэрца віталі знакамітыя вучоныя, якія адначасова з'яўляюцца і прыхільнікамі таленту Р. Барадуліна.

"Лімаўцы" таксама віншуюць Рыгора Іванавіча з "доктарствам" і — чакаюць яго новых твораў.

# НОВАЕ... ПРА КРЫЗІС

У адрозненне ад першай, камерная, другая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета РБ С. Шарэцкага з работнікамі культуры і мастацтва была і больш прадстаўнічай, і больш канструктыўнай. Адзначым перш за ўсё яе падрыхтаванасць, вызначанасць мэты, прыцягненне да ўдзелу той самай "другой рукі", якая магла б дапамагчы, — прадстаўнікоў урада (А. Сасноў, А. Сверж, А. Тур). Удзел у сустрэчы начальнікаў абласных упраўленняў культуры таксама быў дарэчы.

З усіх прысутных міністраў і намеснікаў з найбольшай увагай слухалі, мабыць, маладога доктара навук, намесніка міністра эканомікі А. Тура, які меў канкрэтныя прапановы наконт таго, як можна павялічыць крыніцы фінансавання і стварыць механізм, каб установы культуры самі маглі зарабляць грошы. Ён быў адзіным сярод калег, хто не сышоў пасля перапынку і сам уважліва слухаў удзельнікаў сустрэчы.

Добра ўжо тое, што ўпершыню створана магчымасць выслухаць пазіцыю ўрадоўцаў і выказаць ім свае прэтэнзіі. На трыбуне — не ў начальніцкім кабінеце, і не ўсе тут адчувалі сябе ўтульна. Хаця, прызнацца, прыходзіла ў галаву думка, што каб даведацца пра найцяжэйшы эканамічны крызіс, ва ўмовах якога мы зараз жывём, і пра тое, што ўсе мы "накрываемся аднай коўдрай", неабавязкова запрашаць такіх высокіх чыноўнікаў.

Канкрэтныя пытанні і прапановы адносна выхаду са становішча мелі старшыня Камітэта па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры В. Букань і рэктар Беларускага універсітэта культуры Я. Грыгаровіч. Змястоўным было выступленне начальніка упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама М. Пашынскага. Як высветлілася, "ахілесава пята" ўсіх устаноў культуры — камунальныя плацяжы. Па сутнасці спынена ўся гаспадарчая дзейнасць. Ну і, вядома ж, балючае пытанне з падаткамі, заробкамі, пенсіямі, несамастойнасцю кіраўнікоў пры размеркаванні сродкаў і да т.п.

Было вызначана, якія законы патрабуюць удакладнення і дапаўнення, якія трэба яшчэ прыняць. Пра дзейнасць устаноў культуры ў "чарнобыльскіх" раёнах расказаў старшыня Нараўлянскага райвыканкома В. Шляга. Пра стан спраў з выратаваннем помнікаў у зоне — начальнік адпаведнай дзяржаўнай службы Г. Шары.

Прынята пастанова Камісіі ВС па адукацыі, навуцы і культуры і зварот да грамадскасці.

Са статыстыкі

— За апошнія 5 год было зачынена 865 бібліятэк (у сярэднім па 173 — штогод). У сельскай мясцовасці зачынена 590 бібліятэк, або 70% з агульнага ліку.

— З 1990 года колькасць клубных устаноў паменшала на 977 адзінак (у сярэднім штогод зачыняліся дзверы 195). У Мінскай вобласці скарацілася 200 клубных устаноў, у Гомельскай — 183, у Магілёўскай і Брэсцкай — па 160 у кожнай.

— За апошнія гады за межы рэспублікі выехала 38 спецыялістаў-інструменталістаў, у тым ліку 12 — у 1995 г.

— Усяго выдзелена сродкаў на культуру: 1994 г. — 1,7% ад рэспубліканскага бюджэту, 1995 — 1,3%, 1996 — 1,4%. (Па Законе "Аб культуры" — не менш як 3% расходаў з дзяржбюджэту).

— За студзень-люты 1996 г. сярэдні заробак у цэлым па культуры склаў 753 тыс. рублёў (або 76% ад сярэдняга па народнай гаспадарцы).

Анонс

# ТОЛЬКІ КЛАВЕСІН!

6 мая ў Рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі адбудзецца канцэрт чэшскай музыкі эпохі барока. Прысвячаецца ён Дню вызвалення Прагі ад гітлераўскай акупацыі. Галоўнай "дзейнай асобай" праграмы будзе канцэртны клавесін, які з'явіўся ў ліцэі зусім нядаўна, перажыўшы ў літаральным сэнсе сваё другое нараджэнне. Рэч у тым, што інструмент германскай фірмы "Амэр" да нядаўняга часу належаў Акадэміі музыкі, але... маўчаў і скарыстоўваўся, мякка кажучы, у якасці бяседнага стала. Дзякуючы энтузіязму саліста Белдзяржфілармоніі Аляксандра Мільто, выкладчыка па клавесіне ў ліцэі, занядбаны інструмент быў капітальна адрамантаваны. Аднавіў усю яго механіку вядомы беларускі арганны майстра Станіслаў Чарняўскі, спонсарскую падтрымку забяспечыў колішні саліст "Песняроў", а цяпер прадпрымальнік Уладзіслаў Місевіч.

Прэзентацыя адроджанага канцэртнага клавесіна адбылася ў ліцэі 9 красавіка, калі намаганнямі педагогаў і вучняў была зладжана арыгінальная праграма — ад толькі-толькі знойдзеных даследчыцай Вольгай Дадзіёмавай "Віланелаў" Войцаха Длугарая (наша музычная старажытнасць!) да спецыяльна, з нагоды прэзентацыі, напісанай п'есы юнага ліцэіста Мішы Оргіша. Канцэртны клавесін — інструмент сёння ў нас рэдкасны. І яго з'яўленне ў ліцэі стварае і новую перспектыву для музычнай адукацыі, і новыя магчымасці для філарманічнага жыцця сталіцы. У чым, безумоўна, пераканаюцца і меламаны...

**С. Б.**

Сустрэчы

# ЗАМЕЖНАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА

Праблемам замежнай архіўнай беларусікі была прысвечана Міжнародная навуковая канферэнцыя, што адбылася пры канцы красавіка ў бруднай актавай зале гістфака БДУ. Архівісты разам з гісторыкамі — як Беларусі, так і Расіі, Украіны, Чэхіі, Польшчы сабраліся, каб абмеркаваць пытанні выяўлення архіўных помнікаў, якія на працягу стагоддзяў "вымываліся" з Беларусі. Было адзначана, што ў адрозненне ад краін-суседак у нас адсутнічае методыка і палітыка навуковай дзейнасці, не існуе дзяржаўнай структуры, якая б мэтанакіравана займалася гэтай справай. На сёння адна з галоўных задач — стварэнне банка дадзеных. "Вяртанне" (такую назву маюць зборнікі, што выходзяць пад эгідай Фонду культуры) — гэта найперш "увядзенне ва ўжытак", бо на непасрэднае вяртанне гістарычных помнікаў у Беларусь спадзявацца мала. Статус-кво ў архівістыцы захаваецца, мабыць, надоўга, а паводле яго кожная краіна валодае тым, чым валодае, нават калі дакументы, рарытэты, творы мастацтва былі вывезены зусім без згоды гаспадароў.

Сур'ёзнай перашкодай для працы ў замежных архівах з'яўляецца раз'яднанасць гісторыкаў і архівістаў розных краін, якая падчас пераходзіць у канфрантацыю.

Пра ўсё гэта гаварылася ў дакладах такіх аўтарытэтных навукоўцаў, як М. Шумейка, А. Мальдзіс, У. Сакалоўскі і многіх іншых.

Праца па секцыях завяршылася "круглым сталом".

**Г. З.**

Варункі

# УНІЯ

*"Многа тутака такіх ест, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняет!"*
*З "Прамовы Мялешкі".*

**Апантанае жаданне нашага кіраўніцтва заключыць Саюз з Расіяй і за год-два напоўніць яго зместам, выклікае сумныя развагі, навеяныя гістарычнымі паралелямі. Ужо два разы ў нашай гісторыі такое было. Першая федэрацыя была заключана ў 1385 годзе ў мястэчку Крэва, што каля Смаргоні, пад Ягайлу, нашага Вялікага князя, які пасля шлюбу з польскай каралеўнай Ядвігай станавіўся адначасова і польскім каралём.**

**Саюз быў як быццам бы і выгодны — разам лягчэй было ваяваць супраць крыжакоў, маскалёў і татар. Прычым, заўважым, у такога роду дакументах была, як аказалася, традыцыйная неразбярыха. Так, у Гарадзельскім прывілеі, падпісаным Ягайлам, з аднаго боку гаварылася пра ўключэнне Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу, а, з другога боку, захоўвалася самастойная ўлада князя і незалежнасць нашай дзяржавы.**

**Доўгі час, больш за стагоддзе, следам за абраннем нашай шляхтай вялікіх князёў палякі адразу ж абіралі іх сваімі каралямі, прывучаючы і беларускую шляхту і самых князёў да непазбежнасці хай пакуль што і фармальна сумеснага існавання. Паралельна ішла паўзучая культурная агрэсія. І ўрэшце нашы наіўныя і даверлівыя продкі дачакаліся такога вялікага князя, як Жыгімонт Аўгуст, які пажадаў уз'яднацца назаўсёды і ў 1564 годзе ў дэкларацыі саступіў свае спадчынныя вялікакняскія правы Польшчы.**

**Лічачы гэта недастатковаю юрыдычнаю падставаю, ён праводзіць Варшаўскі сойм са спецыяльна падабраных прадстаўнікоў шляхты. Сойм абвяшчае злуччё "двух народаў... у адзін народ, адно цела, а таму целу ўстанаўліваецца адна Галава і адзін гасудар кароль і таксама адна агульная рада".**

**Тады ў нашай дзяржаве было трагічнае становішча — ішла вайна з шалёным расійскім царом Іванам Жахлівым. Гэта выкарысталі "арганізатары" далучэння на чале з Жыгімонтам Вазам.**

**Патрыёты бацькаўшчыны супрацьўляліся, не жадаючы пацвярджаць ініцыятыву вялікага князя. Падчас з'езда ў Любліне яны заяўлялі палякам: "Калі ж... вы, паны, не пажадаеце з намі ўвайсці ў братэрства... так, як мы прапаноўваем... але... будзеце цягнуць нас да інкарпарацыі... дык нам не будзе патрэбы тут заставацца".**

**Жыгімонт супакойваў палякаў, гаворачы, што ім (нашым продкам) "не будзе прапанавана нічога іншага".**

**Было, як заўсёды, і сакрэтнае пагадненне: "Каб было ў таямніцы ўсё, што адбываецца паміж імі".**

**Патрыятычныя сілы былі аслаблены. Поўным ходам ішла паланізацыя шляхты, а праз гэта і знікненне ўласнай нацыянальнай тоеснасці. Шмат хто са шляхты пайшоў на згоду: "адны, баючыся што-небудзь страціць, а другія жадаючы ўбіцца ў ласку". І ўрэшце ў 1569 годзе Люблінская унія была падпісана.**

**Доктар навук, гісторык права Я. Юхо ўпэўнены, што з боку Жыгімонта Аўгуста адбыўся "акт дзяржаўнай здрады, здзейсненай галавой дзяржавы".**

**Адзінае, што хоць неяк ратавала нашую тагачасную дзяржаву — старажытная Канстытуцыя — Статут княства ды патрыёты.**

**Вынікі уніі вядомыя: магутная хваля паланізацыі, якая прывяла да тэрытарыяльных (Беласточчына, Віленшчына), дзяржаўніцкіх (аде ўтнасць беларускага вышэйшага стану на працягу далейшай гісторыі) ды культурных (праца ў польскай культуры шматлікіх беларусаў) стратаў.**

**Гэта была першая спроба ўз'яднання.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## РАГНЕДА І ЯРАПОЛК У ...ЮНЕСКА

**У апошнія дні красавіка з Мінска ў Парыж выправілася невялікая балетная дэлегацыя — артыстка Інеса Душкевіч, малады танцоўшчык Уладзімір Далгіх і мастацкі кіраўнік беларускага балета Валянцін Елізар'еў. Ляцелі, праўда, не напрамую ў Парыж, бо такога рэйса з беларускай сталіцы пакуль няма, а праз Маскву, разам са знакамітай Галінай Уланавай.**

**А нагода для парыжскай вандроўкі — такая. Адна з апошніх прэм'ер балетнай трупы — спектакль "Страсці" (музыка А. Мдзівані, пастаноўка В. Елізар'ева) — вылучана на атрыманне найбольш прэстыжнай міжнароднай прэміі ў галіне харэаграфіі — прыза "Бенуа дэ ля данс" у намінацыі "харэаграфічны спектакль". Канкурэнтамі нашым "Страсцям" сталі харэаграфічныя спектаклі з ЗША, Англіі, Германіі, Ізраіля, Францыі. У склад журы ўваходзяць буйнейшыя дзеячы балетнага тэатра — Галіна Уланава, Юрый Грыгаровіч, Джон Наймаер, Марыс Бежар, Іржы Кіліян і іншыя.**

**Прадстаўнікі Камітэта танца пры ЮНЕСКА прыязджалі папярэдне ў Мінск, каб пaглядзець "Страсці" цалкам, "ужывую", папрасілі касету з відэазапісам спектакля (відэаэкземпляры рассылаюцца ўсім членам журы для прагляду).**

**І вось — Валянціна Елізар'ева можна павіншаваць: 29 красавіка ў Вялікім палацы ЮНЕСКО адбылася цырымонія надання лаўрэацкага звання і ўручэння прыза яму як лепшаму харэографу 1996 года. За час існавання гэтай узнагароды ёю былі ганараваны пакуль толькі чацвёра балетмайстраў з сусветным імем. Валянцін Елізар'еў стаў пятым!**

**Т. ФЁДАРАВА**

## "МУЗЫКА НАДЗЕІ"

**27 красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі адбыўся дабрачынны канцэрт, прысвечаны 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы. Усе вырučаныя ад яго сродкі будуць пераліčаны ў фонд "Дзецям Чарнобыля".**

**Удзельнікі канцэрта — лаўрэат міжнароднага конкурсу А. Алоўнікаў (віяланчэль) і Т. Чарыева (арфа) — у праграме з двух аддзяленняў выканалі творы Баха, Лазерна, Куперэна, Дакена, Чайкоўскага, Глазунова, Шуберта, Шапэна, Сен-Санса і Рэспігі. Музыка гэтых кампазітараў гучала ў трох выканаўчых варыянтах: непасрэдна дуэтам, сола віяланчэлі — прэлюдыя до мажор Баха і арфа сола — Дакен "Зязюля", "Наталі-вальс" Чайкоўскага. Асабліва запомнілася інтэрпрэтацыя твораў французскіх кампазітараў. Вельмі паэтычна, тонка, пранікліва прагучалі саната "Арпеджыонэ" Шуберта, "Лебедзь" Сен-Санса. Цікава, што ў гэтым канцэрце А. Алоўнікаў выступіў не толькі як выканаўца, але і як аўтар інструментальных пералажэнняў і транскрыпцый, музыказнаўца.**

**Наталля КСЁНЦ**

## ПОЛАЦКАМУ "НАДДЗВІННЮ" — 70

**З альманаха "Наддзвінне" (1926 год) вядзе свой радавод полацкая літаратурная філія. А пачыналася ўсё з акруговага аддзялення літаб'яднання "Маладняк". Творчым вірам кіраваў напачатку А. Дудар, потым — С. Хурсік. У розны час у філію ўваходзілі Э. Самуйлёнак, П. Броўка, Я. Скрыган, А. Звонак, Т. Хадкевіч, В. Маракоў, П. Шукайла, С. Сямашка... Кіпела адраджэнскае жыццё. Наладжваліся літаратурныя вечарыны з удзелам знакамітых пісьменнікаў.**

**Дарэчы, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік сумесна з Міжнародным фондам Янкі Купалы, Літаратурным музеем Янкі Купалы, запрасіўшы прадстаўнікоў усіх устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый, якія размешчаны ў Полацку на вуліцы Янкі Купалы, або носяць імя паэта, хоча паўтарыць той купалаўскі вечар, які праходзіў у Полацку 11 траўня 1926 года.**

**У выніку рэарганізацыі "Маладняка" полацкая філія стала ўваходзіць у БелАПП. Пераемніцай яе па сённія існуе полацкае літаратурнае аб'яднанне "Наддзвінне", якое правяло 27 красавіка сваё юбілейнае пасяджэнне. Кіраўнік філіі Г. Кірылаў, згадаўшы імёны сваіх папярэднікаў — В. Лукшу, А. Савіцкага, Н. Гальпяровіча, І. Стадольніка, даў слова сучасным полацкім творцам, сябрам-"наддзвінцам". А ўперамежку з нумарамі мастацкай самадзейнасці выступалі і самыя юныя паэты — гадаванцы педагагічнага коледжа імя Ф. Скарыны, школьных літаратурных гуртоў. Спадзяюцца "наддзвінцы" на свой маладняк.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# ГРОШЫ І БАНКІ: "УСЕБЕЛАРУСКАЯ ГІСТОРЫЯ, АШЧАДКАСА N 2"

Мой калега, вучоны-эканаміст, стаўшы віцэ-дырэктарам аднаго з буйных банкаў, прызнаўся: "Там, дзе маленькія грошы — маленькія злачынствы, дзе вялікія — велізарныя". Ён безумоўна мае рацыю. Інтуітыўна многія адчуваюць, што нас моцна падманулі гэтыя перабудовачныя гады. Справа не толькі ў страчаных зберажэннях, а ў тым, што і грошы, якія зарабляюцца цяпер, выкарыстоўваюцца далёка не ў нашых інтарэсах.

Па-першае, кожны можа ўспомніць пра тое, што апошнія чатыры гады (ажно да 1995) існаваў нейкі "жалезны закон" заработнай платы — 25 долараў у месяц. Праўда, і цэны былі іншыя. Аўтару гэтых радкоў зусім свабодна ўдалося купіць у 1991 годзе туфлі нашай вытворчасці, якія ў перакладзе на долары каштавалі 27 цэнтаў. Такія простыя, з заменніка, але насіць можна. Яны мне спатрэбіліся як эканамічны прыклад з пераходнай эканомікі, калі канкрэтна іх дэманстраваў, што называецца, у рабоце, сваім замежным калегам-эканамістам. Такі час каласальных дэфармацый адносных і абсалютных цэн быў і ў ГДР, і ў іншых краінах напярэдадні лібералізацыі цэн.

Грымнулі рэформы, і ўсё пачало мяняцца. Цэны памкнуліся ў касмічную прастору, а мы усе ператварыліся ў бедных і эканамічна бяспраўных. Сапраўды дзіўна, чаму сярэдні заробак некалькі гадоў складаў пару дзесяткаў долараў? Куды падзеліся нашы грошы і дзе (і хто?) зарабляў сотні гэтых самых баксаў?

Першы варыянт адказу просты: яны ў крамнікаў, у тых, хто гандлюе снікерсамі і раз'язджае на мерседэсах, купленых на нашы грошы. Гэта і так, і не так. Калі інжынер або настаўнік пачаў займацца гандлем, то ён мае права атрымаць досыць высокі даход за тое, што прывёз і прадаў тавары, якія мы раней маглі бачыць толькі ў замежных часопісах. Даруйце, але нават пустыя піўныя бляшанкі збіралі і выстаўлялі на сваіх кухнях як экзатычнае ўпрыгожанне.

Той, хто раней расстаўся з ілюзіямі аб роўнасці і справядлівасці, выйграў, хоць гэта таксама часовая з'ява. Фармуецца магутны аптовы рынак фірм, якія хутка задушаць дробных прадаўцоў і дылераў.

Усё гэта былі маленькія грошы. Вялікія грошы былі ў нашых банках. Там размяшчаліся грошы "Гарызонта", МТЗ, МАЗа і ўсіх тых няўдалых манапалістаў, якія цяпер перажываюць далёка не лепшыя часы. Няма цяпер грошай (зваротнага капіталу) у дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый.

Дзе грошы? Тыя, што выпускаліся Нацыянальным банкам, за "межы рэспублікі не вывозіліся, але як казаў Астап Бэндэр, у некага яны ёсць. Так, сапраўды, гэтыя грошы не ў нас на руках (сярэдняя сям'я аддае 70 працэнтаў сваіх даходаў на пакупку прадуктаў харчавання), мы з імі даволі хутка расстаёмся, купляючы бульбу па 4 тысячы за кілаграм, хоць яна ў Галандыі, скажам, каштуе усяго 1640 беларускіх рублёў. Але гэта ўжо другое пытанне, хоць кожны разумее, што 4 тысячы ён аддае не галандскаму фермеру.

Нашы грошы знаходзяцца ў нашых жа банках ці ва ўрада, які забірае іх у выглядзе падаткаў. Працуючы пагалоўна на нашу родную дзяржаву, мы, тым не менш, іх перадаём ужо прыватным банкам. Паглядзім, як суадносіцца ўласнасць у банкаўскім і прамысловым сектары. На гэты конт прывядзём табліцу.

Калі дзесяць гадоў назад доля дзяржаўнай уласнасці ў банках была 100 працэнтаў, то цяпер яна складае ўсяго 29 працэнтаў. 71 працэнт належыць прыватным фірмам, акцыянерным таварыствам і так званым фізічным асобам. Цікавыя гэта людзі — фізічныя асобы. Як яны паспелі так хутка завалодаць банкамі?

Увогуле, па вялікім рахунку, сакрэтаў тут няма. Уладзімір Ільіч Ленін вучыў, што захоп улады пачынаецца з захопу тэлеграфаў, мастоў, банкаў. Тэлеграф у Мінску адзін, мастоў мала. Застаюцца банкі. Вось іх і пачалі захопліваць. Улада палітычная пачала трансфармавацца ва ўладу эканамічную і яе форму — грашовую. У банкаўскія крэслы хутка пераселі людзі з партыйных і "савецкіх" кабінетаў. Тое, што Мікалай Іванавіч Рыжкоў стаў пасля прэм'ерскага паста кіраўніком буйнога расійскага банка, хутчэй за ўсё звязана не з рэалізацыяй яго юнацкай мары стаць фінансістам. У нашых палітыкаў таксама ёсць густ у гэтых перамяшчэннях.

Дарэчы, такія "кадравыя" перамяшчэнні натуральныя ў сілу даволі цікавай прычыны. Справа ў тым, што ў савецкія часы фінансістамі і банкірамі рабіліся ў асноўным жанчыны, у банкаўскім сектары рэспублікі звыш 70 працэнтаў занятых — прадстаўнікі цудоўнага полу. Не была гэта прафесія прэстыжнай і значнай у грамадскім разуменні. У планавай эканоміцы работнікі банкаў выконвалі рашэнні "дырэктыўных органаў", не больш. Мужчыны "ішлі" ў фізіку, авіяцыю, тэхніку, прамысловасць.

З пачаткам рынкавых пераўтварэнняў усё рэзка змянілася. Фізікі-ядзершчыкі сталі беспрацоўнымі, лётчыкі — без грошай. Засталося пайсці ў палітыку або заняцца нечым іншым, што прыносіць грошы. Мужчыны натоўпам рушылі ў банкаўскую справу, адцясніўшы сваімі плячамі кволых жанчын. Вядома, ёсць і выключэнні, жанчыны таксама могуць пастаяць за сябе. Па прыклады далёка хадзіць не трэба, успомнім дыскусію паміж Аляксандрам Рыгоравічам і Станіславам Антонавічам. Шэр шэ ля фам.

●

Формула простая, як апельсін. У перыяд інфляцыі выйграе той, хто пазычае грошы ў нацыянальнай валюце. Пазычайце і аддавайце праз год. Як гэта выглядае эканамічна? Прыклад: у 1994 годзе інфляцыя склала 2000 працэнтаў, а крэдыты можна было браць пад жахлівыя (як крычалі, але бралі) 250—300 працэнтаў. Падвядзём рахункі. Калі вы гультаяваты і проста возьмеце крэдыт у 1 мільярд рублёў у пачатку года і купіце на гэтыя грошы цукар (тавар можа быць любым), але не прадаяце яго ( вы гультаяваты) да канца года, то атрымаеце ў снежні наступную суму: 1 млрд. пры 2000 працэнтах = 20 млрд. Атрымалі грошы і аддалі працэнты: 1 млдр. пры 300 працэнтах = 3 млрд. Значыць са сваіх 20 аддайце 3 (плюс 1 млрд. як зыходную заёмную суму) і ў вашай кішэні (на рахунку) апынецца 16 млрд. беларускіх рублёў. За гэтыя грошы можаце мармурам аздобіць лесвіцу ў вашым офісе або стаць дэпутатам Вярхоўнага Савета (прыклады ёсць).

Калі вы не такі гультай, то выпрошвайце крэдыт пад 50 ці менш працэнтаў гадавых, а то і ўвогуле пад 6 працэнтаў (гэта ў мінулым годзе ўрад выпрасіў у Нацыянальнага банка). Калі вы энергічны, то бярыце крэдыт і круціце яго што ёсць сілы. Купляйце і прадавайце як мага больш і як мага часцей.

Даўгі ж можна і наогул не аддаваць, ад 10 да 50 працэнтаў крэдытаў не вярталася ў гэтыя слаўныя гады. Дарэчы, існавала прынятае ў нашым наменклатурным грамадстве правіла вялікія грошы, вялікія крэдыты выдаваў Нацыянальны банк, але не прама, а праз "камерцыйныя" банкі. Гэта нідзе не робіцца. Цэнтрабанк грошы не выдае.

Калі пачалася гэтая мутантная "рынкавая" дзейнасць, аўтару гэтых радкоў даводзілася папярэджваць банкіраў, што іх чакае крах. Яны працавалі, кажучы навуковай мовай, ва ўмовах адмоўнай стаўкі банкаўскага працэнта. Крэдыты не могуць выдавацца пад працэнт ніжэй за ўзровень інфляцыі. Маіх калег-банкіраў гэта не палохала, яны адказвалі, што за час такой сумятні змогуць зарабіць сабе на жыццё.

Так і атрымалася. Банкі і фінансавыя кампаніі пачалі "гарэць", абанкручвацца. Аднак банкруты не сталі пускаць сабе кулю ў лоб або сядаць у даўгавую яму. Усё нармальна, яны ўжо пабудавалі катэджы, купілі дарагія аўтамабілі, матэрыяльна някепска сябе забяспечылі. Цікава і тое, што калі адзін са сталічных банкаў пачаў гарэць сінім полымем і дробныя прадпрымальнікі пачалі забіраць свае грошы, то клеркі гэтага банка пачалі браць за гэта хабар. Некаторыя з кіраўнікоў не адмовілі сабе ў задавальненні паехаць на Новы год у Іспанію. Усё нармальна: дурні — гэта тыя, хто не сядзіць у банках.

Не хацеў бы, каб мяне ўспрымалі б гэтакім банкафобам. Справа не ў банках, а ў нашых саўдэпаўскіх, саўкоўскіх паводзінах. Самае страшнае, што так працавала сістэма, сектар эканомікі. Эканамічнае кіраўніцтва краіны не толькі не звяртала ўвагі, але і выкарыстала гэты механізм абрабавання і прадпрыемстваў, і нас з вамі. Адказнасць — нулявая, папрокаў сумлення — ніякіх. Хоць бы хто пакаяўся.

І так, першы тайм мы ўжо адыгралі. Нас пастроілі па росце, навучылі жыць. Беларусь павінна правесці свае эканамічныя і палітычныя рэформы, зрабіць гэта чыстымі рукамі, прафесіяналамі. Менавіта сумленнымі і прыстойнымі людзьмі. У гэтай галіне чамусьці існуе дэфіцыт, палітычныя партыі і рухі паўсюдна складаюцца са звыклых наменклатурных імёнаў і прозвішчаў (або іх дзяцей). Працэс нашай нацыянальнай хваробы зацягнуўся. Відаць, давядзецца доўга чакаць выздараўлення соцыуму. Цікава, ці думаў хто пра тое, каб правесці вакцынацыю нашых дзяцей? Мо яны ўжо латэнтныя носьбіты віруса мутантнай эканомікі і грамадства?

**Леанід ЗАІКА,**

**дырэктар Інстытута незалежных даследаванняў НЦСД "Усход—Захад"**

СТРУКТУРА ЎЛАСНАСЦІ Ў БАНКАЎСКІМ І ПРАМЫСЛОВЫМ СЕКТАРАХ
(у працэнтах, студзень 1996 г.)



Беларушчына

# COLCHOZUM VETO

Алесь ЧОБАТ

НЕ ЗАСВОІЛІ мы простую ісціну, што ад літаратуры не растуць ні надоі, ні ўраджаі. І толькі няшчасная купка людзей асмелілася дадумацца, што і сярэднестатыстычную душу літаратура не выхоўвае — калі няма грунту, то няма куды сеяць. “Любоў да радзімы, — напісаў К. Тарасаў, — не з’яўляецца вынікам атрыманых ведаў. Хутчэй наадварот — імкненне да ведаў ёсць вынікам любові да радзімы”.

Сярэднестатыстычны савецкі беларус сваю зямлю не любіць. Праўда, гаварыць пра гэта не гаворыць, а калі хто адважыцца, то можа дастаць па мордзе. Але што зробіш — такая ёсць праўда. Цяперашні калгаснік і нашчадак ўчарашняга прыгоннага сваёй зямлі толкам ніколі не меў — калі на **дзейснае** пакаленне лічыць па **дваццаць гадоў**, то ад рэформаў 60-х гадоў XIX ст. да калектывізацыі канца 20-х гадоў XIX ст. такіх пакаленняў налічваем толькі тры. У тыя часы зямля належала пераважна магнатам і шляхце, у пераважнай большасці каталіцкай, а каталікам пасля паўстання 1863 года царскі закон забараняў зямлю купляць, і так было аж да 1906 года, у выніку каталік-землеўладальнік баяўся зямлю прадаць, таму што потым ужо ніколі не купіў бы новай, з **гэтай прычыны ніякага паважнага зямельнага рынку ды і ўвогуле рынкавых адносінаў у пяці беларускіх губернях не існавала.** Капіталізм пралятаў скрозь іх чыгункай з Масквы ў Варшаву ды з Пецярбурга ў Адэсу, а тут **сорак гадоў** народ жыў у тым жа спрадвечным сне — **два** пакаленні адкінем. А на апошняе **трэцяе** прыпадае вайна 1914-20 гадоў, рэвалюцыі, страта 1,5 млн. чалавек, бежанства, разбурэнні і г. д.

Сярэдні беларус не любіў тую зямлю, што меў, таму што меў яе мала і яна яго ледзь карміла, а **толькі праз тры** азначаныя дзейныя адносна свабодныя пакаленні вёска трапіла з прыгону ў калгас. Столькі ўвагі зямлі і вёсцы ў справе любові да радзімы тут аддадзена менавіта таму, што беларусы былі народам сялянскім — мяшчанства было нешматлікае, пралетарыят мізэрны, а “сваіх” капіталістаў існавалі адзінкі.

Але ці былі беларусы нацыяй? Ці была ў іх гістарычная памяць? Спрачацца няма пра што, таму што **этнас** існаваў добрае тысячагоддзе — ад канца славянскай экспансіі па Нёмане, Віліі і Дзвіне ды асіміляцыі балтаў. Але ці была на пачатку стагоддзя беларуская **нацыя** ў цяперашнім значэнні гэтага слова? І тут няма пра што спрачацца — была такая нацыя. Але **нацыя без** уласнага кіруючага, гандлёвага і культурнага класа, **нацыя без** уласнай маралі і веры — гвалтоўны перавод Кацярынай ІІ уніятаў на праваслаўе на ўсходзе Беларусі 200 гадоў назад і канчатковая ліквідацыя Уніі Мікалаем І у 30-я гады XIX ст. фактычна разарвалі сувязь паміж чалавекам і Богам, усе гэтыя пярэхрысці былі людзьмі са зламанай душой; дарэчы, што да цяперашняга плачу па Уніі як па “беларускай” веры, то не трэба забываць пра “чорных” і “белых” святароў і пра тое, як адны уніяты спехам цягнулі проста ў польскі каталіцызм, а другія на чале з біскупам Сямашкам у адказ кідаліся ў абдымкі імператара і Рускай праваслаўнай царквы, так што пачакайце плакаць ды абвяшчаць зноў “беларускую” веру, бо “рускую” і “польскую” ўжо маем! — **нацыя без** сваёй літаратуры і нават уласнай граматыкі, не гаворачы пра ўласную культурную еўрапейскую традыцыю: вось такой нацыяй былі беларусы! Гэта быў “пластылін” паміж валкамі ліберальнай еўрапейскай ды імперскай расійскай культурай, і лёс такому народу выходзіў адзін — знікнуць.

І народ знікаў — паволі паступова. Хто толькі крыху выбіваўся ў людзі, той за лічаныя гады рабіўся “палякам” альбо “рускім” у залежнасці ад веры, а ўсе яркія адзінкі ёсць выключэнні і толькі пацвярджаюць агульнае правіла.

Не трэба забываць, што працэс расцягвання “тутэйшага пластыліну” на дзве культуры не быў выключна гвалтоўны і прымусовы — ці шмат школ і ці так добрых збудавала тут Расія?! а каго мог “зрабіць” палякам прыціснуты царызмам касцёл, якому пасля 1864-га і аж да 1906 года забаранялася нават будаваць і рамантаваць храмы?! — не, беларус “паланізаваўся” пры касцёле, дзе можна было хоць троху вывучыцца і потым выбівацца ў людзі, беларус “русіфіцыраваўся” праз службу ў войску і масавай адыходніцтва на сезонныя заробкі ў Расію. Не трэба забываць, што **сягоння нас магло зусім не быць** і што ацалелі мы парадаксальным чынам, а менавіта ўжо памянутым вышэй, бо паколькі тут сорак гадоў у эпоху бурлівага развіцця капіталізму не было ні рынку, ні руху, то наш **этнас** са сваёй прадзедавай сярэднявечнай тэхналогіяй выжывання і псіхалогіяй побыту **так і прасядзеў некранутым** у сваім любімым балоце, пакуль не грымнуў 1905-ы ды наступныя векапомныя з пераломнымі і надышоў зусім другі час з новымі правіламі гульні ў жыццё і смерць.

Да месца і не да месца памінаючы цяпер трохсотгадовую незалежнасць Полацкага княства, традыцыі ВКЛ, славу Грунвальда і Оршы, волатаў Рэнесанса і іншае, не трэба забываць, што ўсё гэта было даўно і было **страчана і забыта тым самым этнасам** ці “пластылінам” **і пакідала абыякавым яго эліту,** ужо даўно і канчаткова адарваную ад яго і даўно чужую яму.

Калі ўсё-такі цяперашняя спроба выбіцца ў нармальны цывілізаваны народ з Божаю дапамогай некалі скончыцца цудам, то хіба тады толькі ацэняць адчайную і вялікую авантуру купкі маладых шляхцюкоў на пачатку XX ст., якія за лічаныя гады на голым пяску напрацавалі літаратурную мову і свой гістарычны міф пра Айчыну, з якімі і за якую пайшлі ў бой ужо тысячы маладых прапаршчыкаў, семінарыстаў, канторшчыкаў і сялян і здолелі адваяваць наступным пакаленням хоць толькі дэкляраваную БНР ды марыянетачную БССР, але гэта дзякуючы ім маем сягоння тое, што маем.

Што ж, вернемся ў нашыя дні.

“Прыйшлі палякі — была польская школа, прыйшлі саветы — стала руская школа”, — гэтак тлумачыць вёска. “Гвалт і прымус!” — крычыць следам інтэлігенцыя. А як вы хацелі! Кожная дзяржава вырашае свае задачы і дамагаецца сваіх мэт — вось вам і “слияние языков” альбо “розвёнзане квэстыі бялорускей в цёнгу еднэго поколеня”! — толькі што, на наша шчасце, Расіі і Польшчы вечна і фатальна не хапала то часу, то грошай, то разумнага начальства. А наконт гвалту з прымусам зноў усё не так проста. Прыйшлі палякі і адчынілі ў мястэчку сямігодку? Дык пры цары-бацюшку адна царкоўнапрыходская школка была... Прыйшлі “саветы” і адчынілі ў горадзе медыцынскі інстытут? Дык пры паляках былі толькі гімназіі... Навука прыцягвае і засвойваецца на любой мове, **і трэба карыстацца з таго, што ёсць,** праўда, па дарозе прышчапляецца чужая культура, але мяне цэлы час мучае адно: ну, добра, уплыў ёсць уплыў дый вучылі нас суседзі, мякка кажучы, не зусім якасна — “трасянка” толькі адна з праяў і не самая горшая! — але чаму ў падаўляючай большасці самі беларусы **імгненна і добраахвотна** адкідалі, вынішчалі і забывалі сваё?! Толькі не гаварыце пра адзінкі, бо гэта зноў будзе толькі выключэнне, якое пацвярджае агульнае правіла... Чаму **гэтую** праблему мы саромеемся разглядаць? Чаму толькі ў беластоцкай “Ніве” можна прачытаць анекдот пра 1939-ы, калі на сходзе савецкі чыноўнік спытаў мужыкоў пра школу і ўся вёска дружна закрычала **“Рускую хочам!”**, а чыноўнік паехаў і ўсё роўна зрабіў па-свойму, а “по разнопрядке” тут мела быць якраз беларуская... і тады бацькі дружна адаслалі і ў такую школу, абы ў любую! **Гвалт ёсць там, дзе ёсць супраціўленне гвалту, акупантам маеш права называць таго, з кім змагаешся.** А ці мала ў 50-я і 60-я гады было не інспіраваных уладай, хоць і такіх не бракавала, але **добраахвотных** просьбаў і мольбаў, каб беларускую школу перарабілі на рускую?! Чаму мы на **гэта** заплюшчваем вочы?!

Беларуская мова і беларуская культура не адчуваліся і не адчуваюцца сярэднім беларусам, як кроў і косць — і ён іх не бараніў і не бароніць, выракаўся і выракаецца, як толькі крыху засвоіць чужое. “А-а там! Мы рабілі, мы толькі рабілі, што нам казалі”, — выдурняецца вёска. Так і хочацца паправіць: мы рабілі і жылі, як умелі, **пакуль нас не чапалі.** Мы з пакалення ў пакаленне толькі паўтаралі жыццё бацькоў. Мы іменна рабілі, як рабы, але нічога не мянялі, не стварылі нічога новага. Беларусы нездарма так націскаюць на свае знакамітыя **працавітасць і памяркоўнасць** — ох, гэтыя хітрыя беларусы! — але і самі яны цудоўна ведаюць, і суседзі не дурныя і добра бачаць, што на самай справе гэта ёсць **няздольнасць і страх думаць, рызыкаваць і прымаць рашэнні, лянота душы і розуму пры соннай галаве і напіханым страўніку.** Сягоння мы хутчэй **нацыя спажыўцоў**, а ўжо ўдругарадзь “вялікіх” працаўнікоў і вельмі ўсмешлівых ды ветлівых памяркоўнікаў — мы не хочам, не жадаем і не ўмеем ствараць. Прыйшоў сабе на працу, выканаў заданне, аднёс дахаты грошы, паеў — і парадак. Тым больш, што ў горадзе вясковаму беларусу аказалася зусім не страшна — ён трапіў не ў горад у яго класічным сэнсе, але ўжо ў **савецкі** горад. А савецкі горад гэта такі горад, дзе толькі машын больш, а свіней менш — гавару пра тых, што на чатырох нагах, — а так толькі работа другая, лягчэйшая і чысцейшая, а так усё тое самае.

Гэтаксама да нядаўняга было цвёрда вядома, што раз адбыў дваццаць два дні па восем гадзін, дык і атрымаеш гарантаваны заробак — ну, а як інача?! — толькі невядома, дадуць прэмію альбо не. А такая гарантыя гэта ўсё роўна, што пасадзіць вясной бульбу і спакойна чакаць да восені, пакуль капаць — толькі невядома, добра ўродзіць ці не. **Савецкі горад — гэта вялікая беларуская вёска з натуральнай гаспадаркай і адпаведнай псіхалогіяй побыту.** У нас любілі пасмяяцца з камуністаў, але на самай справе іх **проста шчыра любілі** і любілі менавіта за “уверенность в завтрашнем дне”. **Не кожны камуніст беларус, але амаль што кожны беларус крыху камуніст.** “А што тут думаць?! Работаць нада, а не думаць...” Вось тая адзіная струна сярэдняга савецкага беларуса — трэба аддаць належнае, ён грае і цяпер, як той Паганіні.

Нешта падобнае назіралася ў 70-я гады ў Польшчы, дзе ўзнік нават спецыяльны тэрмін для акрэсленай катэгорыі людзей — **“хлопоработніцы”**. Але ж там у грамадстве была **адна** такая катэгорыя, якая ні на што істотна не ўплывала. У нас жа, апроч класічных **“сялянарабочых”**, склаліся свая **“сялянаінтэлігенцыя”** і нават кіруючая **“сялянаэліта”**, якая вырашала і вырашае ўсё! У нас і толькі ў нас міністр можа быць, прабачце, дурань дурнем і пісаць з арфаграфічнымі памылкамі, але не дай яму Божа не ўмець, скажам, касіць... Гэтаму міністру такога ніхто не даруе — ні вёска, ні інтэлігенцыя! Мне неаднойчы даводзілася чуць ад вельмі элітарных асоб: “Дык ты касіць не ўмееш?! Які з цябе беларус...”. Толькі рускі палкоўнік з ваеннай кафедры тэхналагічнага інстытута на курсанцкіх зборах па нарыхтоўцы сена ў часы нябожчыка Машэрава неяк мяне супакоіў: “Кто не умеет косить — умеем носить!”. Мы жывем сягоння ў часы ядзернай зброі, але разважаем на ўзроўні паншчынных мужыкоў часоў князя Льва Сапегі... Калегі з Еўропы робяць вялікія вочы, млеюць і падаюць ад нашых размоў пра доўг і віну літаратара перад шматпакутным народам, пра абавязак служыць яму і адначасова быць для яго маральным прыкладам — цікава, як гэта служка можа быць прыкладам пану?! — яны гэтага проста не разумеюць. **Па сваёй наіўносце яны думаюць, што ў літаратара адзін абавязак — не хлусіць і добра пісаць. Але яны не ведаюць, што самы ненавісны чалавек у гэтым Краі менавіта прафесіянал.**

“Слушайце сюда!”

У 50-я і 70-я наша аплаканая і прапашчая быццам бы вёска нідзе не падзелася і не ператварылася ў нешта іншае — тут сапраўды было “не так, як у людзей”. Тут вёска прыйшла ў такі горад ды ажно так хутка і шматлікасна, што **не яна была размолата** і перапрацавана горадам у сэнсе карнявой псіхалогіі побыту, як гэта адбылося амаль паўсюдна ў свеце, **але сама размалола,** праглынула і выплюнула яго! **Па ўсім свеце правіць, вязе і кіруе горад, а тут вёска стаіць спераду горада, як воз спераду каня.** Нашы вёскі сягоння — гэта вёскі. Нашы гарады і мястэчкі сягоння — гэта тыя ж вёскі.

Але горад перамагла не проста вёска, але калгасная вёска — і што б ні гаварылі, што калгас гвалтам накінулі з усходу бальшавікі, высеклі цвет і г. д., але не трэба забываць, як доўга тут трывала “община”, як доўга гаспадар не меў свабоды і перад прыходам бальшавікоў, ды паглядзіце, як большасць вёсак забудаваная — на вузенькіх шнурах уздоўж дарогі, ты яе хоць заўтра забірай назад пад маёнтак! — а як укаранёная псіхалогія “роўнасці” ды “справядлівасці”... Ад Боны Сфорцы з яе “валочнай памерай” і аж да 1905 года і рэформы Сталыпіна тут не было істотных зрухаў у землеўпарадкаванні; у 20-я гады нарком земляробства БССР Дз. Прышчэпаў спрабаваў, па сутнасці, працягваць... тую ж царскую палітыку — рассяляць вёску на хутары! Так шмат ахвяр калектывізацыі прынесла не з прычыны актыўнага супраціўлення ёй, таму што арганізаванага адпору не было, больш таго, **адна частка вёскі вайной пайшла на другую,** але з той простай прычыны, што ахвяры былі Сталіным запланаваны дзеля мілітарызацыі адсталага СССР коштам мільёнаў рабскіх лагерных рук...

Што ж такое народ? Як пісаў Б. Дрвэскі, “за ўсе гады існавання Рэчы Паспалітай Абоіх Народаў **і хлоп з-пад Кракава, і мужык з-пад Мінска значылі тое ж самае ў вырашэнні дзяржаўных лёсаў — гэта значыць, нічога;** то ж датычыцца і развіцця грамадскага ладу, культуры і гаспадаркі”. Але потым хлопа і мужыка лёс раздзяліў. У Польшчы пасля ІІ Сусветнай вайны нават Сталін не адважыўся на калектывізацыю — “хлоп” ужо даўно быў гаспадаром: Касцюшка выдаў Паланецкі Універсад у 1794 годзе, а Напалеон скасаваў прыгон у 1807-м — **і праз адчуванне таго, што ён гаспадар, польскі хлоп зрабіўся палякам і грамадзянінам** і біўся за ўсю Польшчу, як за сваю зямлю, а за сваю зямлю, як за ўсю Польшчу. **Мала мець сваю шляхту — трэба мець свайго мужыка.** У гэтым сэнсе мы псіхалагічна далёка па-за Еўропай — “лінія Керзона”, але раздзяляе **два спосабы жыцця, два спосабы мыслення** — і нічога дзіўнага, што менавіта тут зараз апусціцца новы “жалезны занавес”.

Наша незалежнасць ад самага пачатку была нейкай **разгубленай** — так і хацелася “калгасасялянству” горада і вёскі і яго “сялянаэліце” (ды і “сялянаінтэлігенцыі”, калі паміж намі) вярнуцца да чаго-небудзь звыклага; скажам, так і сядзець дырэктарамі саўгасаў абапал чыгункі Берлін—Варшава—Масква, як сто гадоў назад шляхта ў маёнтках. Таму і “стаялі на месцы” рэформы — думаю, шмат хто з урада не раз праклінаў усё на свеце: “Якія рэформы?! Чаго яны ад мяне хочуць?!” — таму і ездзілі папрашайнічаць раз-пораз у Маскву, і была гэта ніякая не здрада (раб не здольны на здраду), але самая натуральная рэакцыя збяднелага мужыка: калі будзе кепска, то зняць шапку і пайсці на панскі двор пазычыць, а потым не аддаваць, а плакаць...

Любоў да Расіі — гэта любоў да панскага двара. Кожны народ некага любіць больш, а некага менш — гэта нармалёва. Але

*(Працяг на стар. 12)*

Уладзімір КЛІМОВІЧ

# ЦЕНІ МЫЛЬНЫХ БУРБАЛАК



УШЧЭНТ зарос Додзік з хутароў: брудны ўвесь, нячэсаны, барада дзеркачом тырчыць... Нічога рабіць не хоча — толькі сноўдае па халупе сваёй з кута ў кут. І млосна яму, і злосна, тары-бары-растабары! Дзеўкі ж яго не любяць! Не любяць, тузані іх за спадніцу! Ужо як толькі не падкочваўся да іх, як не туліўся, як не лашчыўся:

— Я, гэта... Додзік я, рас... растабары...

Пруць Додзіка ў каршэль дзеўкі, толькі пыл курыць. А ён жа такі добры, такі кампанейскі... Серабране абяцаў асінае кубло ў хвойніку паказаць, каб толькі не гнала. Дзе там! Стаіць Серабрана сярод вуліцы і рагоча, зубы белыя ашчэрыўшы. Ох, і зазлаваў тады Додзік на яе! Аж падрос ад злосці. Хацеў, нават, прыхавацца ў кустах і цемнатою, як з фермы будзе ісці, ускочыць каршуком на плечы, рукамі прагнымі абшчаперыць моцна і памацаць сілком месцы недазволеныя. Але ўспомніў Додзік, што Серабрана б'ецца, як кабыла: свісь даланёй чырвонай — і пашчэнкі няма, — як успомніў, дык і падабрэў неяк. І не дзіва — як жа ён без пашчэнкі курыць будзе?

А без дзевак усё роўна — так кепска, аж выць хочацца. Вось і тупае Додзік па хаце ад сцяны да сцяны, быццам вожык. Змэнчыўся ўвесь, зперажываўся... Ат, раптам чуе: галасы якіясьці шчабечуць. Зірк у вакно — тары-бары-растабары, дзеўкі полем з сенажаці ідуць, гергечуць, як гускі. Додзік аж застагнаў, аж затросся ўвесь. Бліснуў глыбокімі вачыма, схапіў са сцяны вяроўку-самакрутку і — шась з хаты. Імчыць полем, пыл з-пад ног уздымае, вяроўку над галавой круціць... “Ну, — думае, — закелзаю дзевачку харошую ды завалаку ў хату. От будзе, дык будзе!..” Аж зароў Додзік, уявіўшы, што тады будзе.

А дзеўкі, як пабачылі хутараніна заклапочанага, дык пасталі — рукі ў бокі. Думалі, зноў пасмяюцца. Ды пасля, як згледзелі, што Додзік азвярэлы і з вяроўкай, як пачулі, што раве, як бык — дарма, што малы — пусціліся ўцякаць, быццам курапаткі размаляваныя. Не да жарцікаў тут!

Прыбег Додзік, засопшыся, а дзевак няма. Пастаяў ён, пахакаў, тары-бары, пачасаў бараду ды паплёўся назад, сам сабе ўсміхаючыся. Толькі ў хату не пайшоў, а павярнуў да хвойніка, што побач зелянеў — асінае кубло праверыць.

●

Прыйшоў Рэнік да суседа Чэрніка, закаціў вочы пад лоб і залямантаваў, як свіння на прыколе:

— А чаго гэта ты маіх куранят падушыў, кабель шалёны? Што гэта ты мне ўсю жытку псуеш? То штыкеціну выламаеш, каб табе зубы ламала, то лішнюю баразну з майго поля выкруціш, каб табе косці круціла! І ўсё шнобель свой чырвоны праз плот на мой падворак гострыш. Цікава табе, бацяну дурному?

Чэрнік аж прысеў ад неспадзяванкі такой ды давай пырскацца слінай:

— Ах ты слізняк! Каб ты са свіннёй з аднаго карыта мешанку хлёбаў, як твае кураняты мае памідоры падзяўблі. Ды каб усе твае куры, разам з пеўнем, спрэнціліся. Каб табе шыю звярнула — гэтак, як ты лямпачку з майго ліхтара выкруціў!

У Рэніка мову адняло, дык ён узяў і плюнуў Чэрніку проста ў нос. А Чэрнік якраз дровы сек на дрывотні. Схапіў ён сякеру, і на суседа:

— Зас-сяку, свінячае рыла!

А Рэнік — хітры дзядзька. Адскочыў убок ды вілы з-за спіны выхапіў:

— Не баюся! Толькі падыдзі — прапару! Шашлык зраблю з бацяна дурнога.

Вось так яны і завяліся. Ходзяць вакол калодкі, прыгнуўшыся, і плююцца адзін на аднаго. Рэнік сякеру з рукі на руку перакідвае, а Чэрнік вілы перад сабою круціць. Хадзілі яны так, хадзілі і ўжо галовы ў іх ацяжэлі, ходзячы ў адзін бок. А тут жонкі прыбеглі, пабралі аглоблі ды давай мужыкоў дубасіць.

— Ах вы, ёлупні даўгавухія! З порткаў даўно павырасталі, а ўсё ў ножыкі гуляюць! — крычыць жонка Рэніка ды лупіць Чэрніка з дзвюх рук.

— Ах вы, лёлікі крываногія! Бульбай не кармі, а пабіцца толькі дай. Я вас н-накармлю! — сіпіць жонка Чэрніка ды таўчэ Рэніка аглобляй.

Вось так, як катоў у мяшку, адлупцавалі іх жонкі, аж узмакрэлі. Гыркнулі напаследак:

— А-ну, вячэру гатаваць! Хутка звечарэе. Пакуль прыйдзем, каб на сталах усё стаяла!

Рэнік з Чэрнікам, балазе, жонкі падабрэлі, хутчэй кожны ў свой двор і давай бульбу скрэбці. А жонкіікнулі смачна ды пайшлі квас піць.

●

Як прычапілася да Сёмкі трасца нейкая — хоць стой, хоць падай. Прачнуўся ён раніцай яшчэ зацемна, накляпаў касу, павесіў на плячо ды пачылыгікаў дзялку касіць. Ідзе сабе, свішча ў вус. Кроплі расы ботамі гумавымі футболіць. Прыйшоў Сёмка на луг, знайшоў сваю меціну, мяжу адтаптаў — тут і сонца з-за пагорка вылезла, заспанае. Памянціў Сёмка касу і толькі сабраўся стаць на першы пракос, як штосьці доўгае, крывое — шлёп яму на дзялку.

— А-ёй, а-ёй! — Сёмка аж заенчыў, затупаў на месцы, — Ты ж траву мне ўсю памнеш, ені-фені!

А доўгае ды крывое далей папаўзло, дрыгаючыся, нават вухам не павяло. Можа, не мела тых вушэй?

— А-кыш, а-кыш! — Сёмка злаўчыўся і дзеўбануў кассём гэтае, шкоднае.

Яно неяк скрывілася, тузанулася, але з дзялкі не сышло.

— Ну, паскудства, я ж табе пакажу! — учапіўся Сёмка за касу моцна, аж пальцы хруснулі, і адвярнуўся, быццам змірыўшыся, што яго траву топчуць. А пасля як падскочыў, з перакрутам, ды й с캐нуў па брыдоце.

І што б вы думалі? Гэтая брыдота таксама адскочыла і Сёмку не далася рэзацца.

— Ах, ты, ені-фені! — Ушчэнт раззлаваўся Сёмка ды й пайшоў, касою махаючы, на госця нязванага.

Дзе з падскокам, дзе ўпрысядку, а дзе і куляючыся. Нябойсь, Сёмка ў войску пехацінцам служыў, манёўры ведае. І лупіць, і лупіць з-за пляча пошасць гэтую. Вось такі ён быў чалавек! Добры, то добры, а калі што не так, дык палец у рот не кладзі — адкусіць па локаць.

Доўга Сёмка скакаў па лузе і натаміўся моцна, узмакрэў да пят. Стаіць, хістаецца. Зірнуў — аж дзялка яго скошана ўся. Вось табе і на! За адзін раз, без пярэдыху. Пачухаў патыліцу Сёмка, дастаў торбу з саланінай ды прысеў на траву скошаную. І гадасць шкодная побач лягла. Паменшала, змарнела — сваю торбу дастала і корпаецца там. Сядзяць яны ўдваіх, Сёмка і гадасць, да саланіну з цыбуляй ядуць: Сёмка — кусь і гадасць — кусь, Сёмка — глык і яна — глык. А як пад'елі, дык Сёмка падняўся і кажа:

— Пайду дахаты, сонца ўжо высока. А ты можаш таптацца, колькі хочаш. Пракосы заадно растрасеш.

І пайшоў. Толькі адчувае, што ісці цяжка. Зірнуў пад ногі, а там незразумеласць гэтая боўтаецца, за яго спінай ад сонца хаваецца і ў вёску паўзе. “Ай, не-е, — думае Сёмка, — прыцягні такую халеру дахаты, дык не адчэпіцца потым. Я ж не дурань!”

— Добра, — кажа хітры Сёмка ўслых, — пайшлі, паможаш пару хвоек спусціць.

І пакрочыў ён да лесу. Азірнуўся, а брыдота следам цягнецца. “Ну, — узрадаваўся Сёмка, — вось тут та я цябе і ўхайдохаю, ені-фені!” І аж у далоні пляснуў, уявіўшы, як гэтае паскудства пад хвойкай пішчаць будзе.

●

Ох, і нарабіўся неяк год неўрадлівы. Да самага жніўня сонца паліла, дык збожжа пасохла. А там дажджы зачаліся. Ды такія нудныя, беспрасветныя, хоць у неба страляй. Прыйшоў час людзям бульбу капаць, а бульбы няма. Вядома: што вырасце на макрэчы?

Вось і прымчалася ўвосень Фроська да Марцэлі:

— Ці бачыла ты, кумка? Ластаўкі ў чароды збіраюцца.

— Дзе ж гэта? — Марцэля вочы расплюшчыла шырока-шырока.

— Да вунь! На вуліцу выйдзі.

Выбегла Марцэля на брукаванку — і праўда: на слупах, на дратах сядзяць птушкі ды ціснуцца адна да адной.

— Бачу! Бачу ластавак! — узрадавалася падслепаватая Марцэля, пераскокваючы з нагі на нагу. — Ну, і што мы з імі будзем рабіць? Можа, паганяем, каб вуліцу не пэцкалі?

— Кінь ты ластавак, — узлавалася Фроська. — Лепш скажы: збожжа ў цябе пагарэла?

— Як і тваё, кумка.

— Бульба вымакла?

— Як і твая, кумка.

— Дык чым араву сваіх курэй-гусей зімою карміць збіраешся? Ці не снегам?

— А чаму б і не? — залыпала вачыма Марцэля. — Снег жа карысны. Учора па целявізары начальнік цэлую гадзіну кляўся, што ў гэтым годзе ён спецыяльны снег заказаў, вітамінізіраваны. Можа, ты не чула?

— А можа, гэта ты звар'яцела? — засіпела Фроська і схапіла куму за валасы.

— Ой, праўда! Ой, праўда! — заенчыла тая. — Так і казаў: “Вітамін В — абясчаю! Вітамін С — абясчаю!”

Фроська ад крыўды аж плюнула пад ногі (ну што з прыдуркаў возьмеш?) і адпусціла куму. Хоць і сама добра ведала, што зімой смачны кампот атрымліваецца, калі снегу ў садзе наскрэбці, ды і суп грыбны заўсёды наварысты, калі снегу пад хвойкай ці ядлаўцовым кустом накешкаць.

— Ладна, я сама ведаю, — уздыхнула Фроська, — ведаю... А цяпер адкажы мне, Марцэля... Ты добра падумай, спачатку, і адкажы: ві... вітамінізіраваны снег халодны?

— Халодны, — Марцэля зацерабіла свой фартушок, быццам школьніца.

— Правільна. Твае куры-гусі ад снегу могуць прастудзіцца?

— Могуць, — пачырванела Марцэля.

— Малайчына! Ад прастуды бывае ангіна?

— Бывае... — Марцэля занепакоілася.

— Куры-гусі ад ангіны паміраюць?!

— А-ёй, а-ёй! Паміраюць! — залямантавала Марцэля. — Ку-урачкі мае чырво-оненькія! Гу-усачкі мае бе-ельнікія! Што ж нам рабі-іць?!

Вось так і вылічала, пакуль Фроська не схапіла яе за камізэльку ды не прыціснула да сцяны:

— А што, калі нашых курэй-гусей у вырай адправіць?

— Куды-куды? — асеклася Марцэля.

— У цёплыя краіны!.. Там, кажуць, іх, як гасцей, камбікормам частуюць. Ды добра частуюць!.. Так што — трэба сваіх выпраўляць...

Селі кумкі на лаўку, пасядзелі, гаротна галовамі паківалі, шчабятанне ластавак паслухалі... А пасля вырашылі: чым халодны снег, няхай сабе і з вітамінамі, дык лепш цёплы камбікорм з калорыямі.

Назаўтра, з самай раніцы, пабралі яны пугі, павыпускалі курэй-гусей і пагналі на поплаў. Неўзабаве сонца паднялося і з-за гарызонта птушкі хмарамі паляцелі. Пачалі Марцэля з Фроськай пугамі сваіх курэй-гусей лупасіць — яны і ўзняліся. Куры гаманлівай чарадой пырхнулі, з пеўнем наперадзе, і далі развітальнае кола над поплавам. А гусі, выцягнуўшы доўгія шыі, белым клінам пайшлі — плаўна, прыгожа. Быццам анёлы.

●

Прыбег да дзеда Хведара ўнук Стасік. А дзед якраз на сонцы жмурыўся.

— Дзед, гы-гы-гы! — зарагатаў Стасік. — Мне двойку па прыродазнаўстве паставілі!

— За што двойку такому хлопцу вялікаму, га?! Каб там, у школе гэтай, параспірала ўсіх, як яны такія разумныя... — заплакаў Хведар.

— Ты мне смаркачы пухірамі не пускай, — раззлаваўся Стасік. — Давай двойку выпраўляй.

— А за што табе яе ўляпілі? — кусаючы вус, горка скрывіўся Хведар.

— Гэта каму-та ўляпілі, каму-та?! — сурова насупіў бровы ўнук.

— Ну, у сэнсе... узнагародзілі за што?

— Во... — палагаднеў Стасік. — Настаўніца загадала жывы куток сабраць і кожны з гэтых хлюпікаў што-небудзь прынёс, а я нічога...

— І што гэтыя... папрыносілі? — выпучыў вочы дзед.

— Хто кацяня, хто шчаня, хто вожыка... Мішка зайца прыцягнуў. А я што? У мяне ж ногі не ад вушэй растуць, як у Мішкі. Дзе ж я гэтага зайца даганю?

— Ну, кацяня ды шчаня... — ускочыў з лаўкі дзед. — А няхай хто самага страшнага звера прынясе!

— Ваўка хіба?! — унукавы вочы засвяціліся азартным агнём.

Хведар адмоўна пакруціў галавой:

— У свеце ёсць толькі адзін самы страшны звер. Ён ненажэрны! Ён паўзе і цэлае сваё звярынае жыццё грызе ўсё, што сустракаецца яму на шляху. Колькі я жыву, ён усё грызе і грызе. Яго проста так не закелзаеш, ён хітры?

— Хто гэта? — у Стасіка ад нецярпення засвярбелі рукі.

— Шашаль! — прашаптаў дзед і ўцягнуў галаву ў плечы.

— Хто-хто?..

— Ша-шаль! — са страхам прамовіў Хведар.

— Ты яго мне зловіш! — паставіў кропку ўнук.

— Ба-а-юся-а! — наўзрыд заплакаў дзед і хацеў уцячы, але ўнук лоўка даў падножку і дзед бразнуўся вобзем.

— Будзеш уцякаць — зраблю з цябе свісток. — Стасік перасцерагальна зірнуў на дзеда і Хведар усё зразумеў.

Ужо хто-хто, а Хведар унука добра ведаў — лепш не пярэчыць яму. Пайшоў Хведар да хлява і пачаў паляванне. Прыкладзе вуха да бервяна і слухае. А як пачуе ўнутры чмяканне, дык бервяно крыжыкам пазначае. Вось наставіў ён крыжыкаў па ўсіх чатырох сценах. Узяў тады Хведар лом і давай бярвёны са сцянаў калупаць. Выкалупае і разбівае ўдрызг, страшнага звера шукаючы. Дзесьці ў чатырнаццатым бервяне, як паўхлява разабраў, напаткаў Хведар шашаляў. Адразу трох. Дзед іх, ненажэрных, у слоік пасадзіў і ўнуку асцярожна перадаў:

— На! Нясі, выпраўляй сваю двойку. Толькі скажы, каб не выпускалі там, бо зжаруць школу ўшчэнт. Яны да новага месца падкія.

Стасік павярнуўся ды рвануў да школы, ухмыляючыся. Што там — двойка... Аднаго шашаля, самага тлустага — дырэктару, другога — у настаўніцкую, а трэцяга — у клас! Вось табе і канікулы!

## У СЁННЯШНІХ ПОШУКАХ



**З гумарам ды болем "Усміхайся месяц белай вішні"... на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. П'еса Васіля Ткачова. Рэжысура ды пастаноўка — Уладзіміра Караткевіча. Супольная работа прымеркавана да дзесяцігоддзя чарнобыльскай катастрофы. Прэм'ера мусіць адбыцца якраз падчас выхаду гэтай інфармацыі з друку. Паводле У. Караткевіча, з п'есаю ён знаёмы ўжо даўно, яна не да сёлетніх чарнобыльскіх угодкаў пісалася, але нагоды для пастаноўкі, чытайце — вырашэння матэрыялу, — трэба было шукаць. У сённяшніх рэжысёрскіх пошуках занятыя Фёдар Іваноў, Віталь Беднашэя, Аляксей Бычкоў, Яўгенія Канькова.**

*На здымку: рэпетыцыя спектакля "Усміхайся месяц белай вішні" В. Ткачова.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "ЗАБАВА"



**Пры Краснянскім сельскім Доме культуры Карэліцкага раёна створаны і працуюць некалькі самадзейных калектываў, але самым вядомым з іх з'яўляецца народны ансамбль песні і музыкі "Забава". Ён — дыпламант Першага ўсебеларускага фестывалю народнага гумару, які прайшоў у мінулым годзе.**

*На здымку: народны ансамбль "Забава".*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## ХОЧА СТАЦЬ МУЗЫКАНТАМ



**У першакласніцы Сашачкі Панкратавай ёсць два любімыя занняткі — ігра на скрыпцы і маляванне. Яна ўжо другі год паспяхова займаецца і ў Салігорскай музычнай школе, і педагогі адзначаюць яе таленавітасць і страснае жаданне стаць музыкантам.**

*На здымку: Сашачка Панкратава на занятках у музычным класе.*

*Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, БЕЛТА*

***А што калі б усю нашу падарожную кампанію (38 чалавек, за нешматлікім выключэннем 15-18-гадовых навучэнцы) пасадзіць за парты, забяспечыўшы чыстымі сшыткамі? Мо праз колькі гадзін падзеі той непаўторнай вандроўкі склаліся б у пісьмовыя аповеды. Тры тузіны шматгалосных варыяцый на адну тэму... Адмыслова, праўда?***

***Але фантазію — шкада! — абмяжоўваюць жыццёвыя банальнасці. Падарожнікі свае, вядома ж, адпрацавалі. Разышліся ў розныя бакі ўдзельнікі ды арганізатары музычнай імпрэзы, і цяпер мая чарга саліраваць, з чыстым аркушам паперы ў руках: нот жа няма. Ёсць толькі занатоўкі. Занатоўкі падзеі, якая доўжылася тыдзень і складалася з мноства ўчынкаў, сустрэч, размоў, назіранняў, уражанняў...***

# ПАЛАНІЎ "ПАЛАНЕЗ" ПАЛОНІЮ...

SOLO З НАГОДЫ

Адбывалася гэта ў Польшчы — у спрадвек блізкіх нашых суседзяў. Наша сяброўскае гасцяванне зноўку нагадала, што бліжэйшае — неабавязкова ва ўсходнім напрамку.

Што блізкасць нашых народаў вызначаецца не толькі геаграфічным становішчам, не толькі спакрэўленасцю з сям'ёю славянства (дзе няма, калі па-людску разважаць, аб'ектыўна "старэйшых" ці "малодшых", "раднейшых" ці больш "чужых"). Яна, блізкасць наша, — у веры ды ў звычаях, у мовах, у штукарствах ды ўмельствах. Нярэдка — і ў сямейных сувязях.

Што сённяшнія стасункі Беларусі з польскімі партнёрамі — гэта знак роднасных еўрапейскіх традыцый, гістарычных дзяржаўных дачыненняў, супольных культурных набыткаў.

Што наша мудрагелістая мінуўшчына, даўшы беларусам ды палякам і агульных ворагаў, і агульных геніяў, пакінула і агульную спадчыну, якую — ні цалкам прысабечыць, ні справядліва падзяліць.

Найлепшы прыклад — музыка Міхала Клеафаса Агінскага, выбітнага нашчадка знанага беларускага роду, "гордага сваім паходжаннем ліцвіна", спачатку дыпламата Рэчы Паспалітай, а потым уплывовага сенатара Расійскай імперыі, апантанага ідэяй дзяржаўнага адраджэння Вялікага княства Літоўскага. Які годна, чынна і нямала пажыў у беларускім асяроддзі, а завяршыў свой зямны шлях на эміграцыі ў Італіі. Які свае "Лісты пра музыку" і мемуары пісаў па-французску, а выдаў, да таго ж, і па-нямецку...

Зрэшты, для нашых чытачоў гэта рэчы вядомыя, відавочныя, зразумелыя.

●

Дык вось, менавіта музыка М. Кл. Агінскага сталася нагодай для надзвычайнай беларуска-польскай сустрэчы.

Летась, да 230-годдзя кампазітара, Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" зладзіла фестываль, падчас якога адбылася прэм'ера балета "Паланез". Драматургічную ідэю арыгінальнага аднаактовага спектакля прапанаваў дырэктар "БК" Яўген Паплаўскі, пастаноўку ажыццявіла Галіна Сінельнікава, фартэпіянныя творы Агінскага, пакладзеныя ў аснову "Паланеза", аркестраваў Вячаслаў Кузняцоў. Праца гэтая спарадзіла і новую ўнікальную супольнасць выканаўцаў: выхаванцы Беларускага харэаграфічнага каледжа, на чале з педагогам Галінай Сінельнікавай, ды Камерны аркестр Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста, стваральніка і дырыжора калектыву — Уладзіміра Перліна.

Імпрэза, свежая і загадкавая, нібы дзіўны сентыментальны сон, увабрала ў сябе настальгічнае пачуццё, захапленне жыццём, мроі пра ідэальнае, пяшчоту і рамантычныя парыванні, горыч першых расчараванняў і страт, засмужаныя хвілі растання і ледзь угледны пробліск надзеі.

Мастацтву, творчай працы зазвычай спадарожнічае жаданне падзяліцца прыгажосцю. І дзякуючы беларуска-польскім пагадненням у галіне культуры з'явілася магчымасць паказаць "Паланез" якраз там, дзе музыка М. Кл. Агінскага мае асабліва ўдзячных прыхільнікаў, выклікае замілаванасць і мо нават нейкую "сакральную пашаноту". А дзеля ёмістасці гастрольнага відовішча і разнабаковага раскрыцця яго чыннікаў было падрыхтавана канцэртнае аддзяленне: музычныя нумары ў выкананні аркестра ліцэя ды ўрыўкі з класічных балетаў у выкананні навучэнцаў харэаграфічнага каледжа (пад фанаграму).

"Балет класічны з Мінска" — значылася на польскіх афішах і праграмках, дзе паведамлялася таксама, што выступленні ў Польшчы (Пулавы, Гданьск, Варшава) былі наладжаны пад эгідай Міністэрства культуры і мастацтва гэтай дзяржавы і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. А рэалізавалі намаганнямі "Беларускай Капэлы" (мастацкі кіраўнік Віктар Скорабагатаў, дырэктар Яўген Паплаўскі) ды Канцэртнага бюро Польшчы (дырэктар Малгажата Блох-Вішнеўска, галоўны спецыяліст Малгажата Каліціньска).



*Камерны аркестр ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі на чале з заслужаным артыстам рэспублікі Уладзімірам ПЕРЛІНЫМ.*

●

Паехалі... Хмурнае лютаўскае неба мо ад лютасці, а мо і ад шчодрасці, у той дзень абрынула свае снегавыя запасы акурат на Брэстчыну і далей, далей на захад. Ехаць было нават небяспечна. У завірусе губляліся і супрацьлеглы "бераг" шашы, і дарожныя знакі. Часта спыняліся. Шафёры (абодва — Сашы!) па чарзе збівалі з ветравой шыбы наліплыя ледзяшы, здымалі ды чысцілі закарэлыя "дворнікі".

Жыццё на колах, пэўна, не бывае сумным. Тым болей, калі ў аўтобусе моладзь і наперадзе Дзяржаўная мяжа, іншая краіна.

Знаўцы англійскай тлумачылі назву, заўважаную на фірменай бірцы аўтобуса: "Blue Bird" — "Блакітная птушка". І следам ляцела тлумачэнне: маўляў, назва ў гонар хлопчыка, які танцуе Блакітную птушку у па-дэ-дэ са "Спячай прыгажуні"... Карыстаючыся тэхнічнай аснашчанасцю салона, яго пасажыры ставілі відэазапіс юбілейнага вечара Маі Плісецкай і сур'ёзна каменціравалі кожны нумар. Потым слухалі старых добрых "Бітлз" і "новую" Пугачову. Праз колькі гадзінаў струннікі з нейкім невытлумачальным імпэтам агучвалі на памяць партытуру — пяялі рамантычную "Сэрэнаду" Э. Элгара, якую граюць пакуль толькі па нотах.

А на мытні — як было не ўсміхнуцца, пачуўшы сугучнае свайму прозвішча суседкі па крэсле: Наташа Берастава! Яна падзівілася супадзенню, я зазірнула ў пашпарт ейнай скрыпкі — вялізную паперчыну з некалькімі фотаздымкамі ды апісаннем асаблівых прыкмет інструмента...

Між іншым, галёрка нашага аўтобуса мусіла ўвесь час пільнаваць віяланчэлі ды кантрабас, каб не "чокнуліся" корпусам, бо тады й гастролям канец. А ўсё таму, што інструменты — у мяккіх чахлах: набыць футаралы ў ліцэя бракавала сродкаў, а Міністэрства культуры, насуперак абяцанням, не дапамагло.

●

Прыехаўшы ва ўжо сонныя Пулавы, пазнаёміліся з Малгажатай Каліціньскай, якая дабіралася з Варшавы, каб стаць нашай спадарожніцай, апякункай і гідам на ўвесь тыдзень. Камфортна ўладкаваўшыся, атрымалі сутачныя (дзеці — нароўні з дарослымі, што, вядома, не закон у замежных паездках). Раніцай убачылі, што апынуліся мы ў мястэчку сціплым і ўтульным, якому свежанамецены снег ды сонейка надавалі асаблівую ахайнасць і ветласць.

Дом хіміка, дзе быў абвешчаны канцэрт, аказаўся гэткім жа ветлым і ахайным. Зала ўразіла і добрай акустыкай (дзіва што: інтэр'ер аздоблены дрэвам), і падсветкай прыступак, якія вядуць і ў амфітэатр, і на падмосткі.

Сцэну давялося асвойваць. Падлога слізкая — да выступлення балета трэба паліваць пепсіколай. Нотныя пульты цяжкія, груваткія — трэба памяняць на свае, складныя. Трэба было падключыць да электрасеткі бутафорскія кандэлябры і размясціць на бязважкіх слупках вазоны з вечнажывымі кветкамі, пачапіць заслону-гарызонт. Парэпеціраваць.

Як жа я чакала рэпетыцыю аркестра!.. І да самога Уладзіміра Паўлавіча Перліна, не сумняваюся, далятае тое, што называюць або чуткамі, або легендамі, з якіх ён паўстае ледзь не "Карабасам-Барабасам", бязлітасна патрабавальным да дзяцей. Ды ці такі ўжо суровы ў пазакулісная працы артыстычны і ўсмешлівы на сцэне маэстра?

Прапанаваны рэквізіт ён забракаваў, дамогся, каб гаспадары здабылі больш лёгкія крэслы, а шафёры звазілі аднаго з музыкаў (добра перад гэтым паўшчуванага за нядбайнасць) у атэль па нотныя пульты... З крэслаў урэшце спатрэбіліся толькі тры, для віяланчэлістаў, бо маэстра вырашыў раптам: "Іграем стоячы!" І вось дзеці сціснуліся ў чаканні першага ўзмаху дырыжорскай палачкі... "Прыбраць усе пульты!!! — грымнула нечаканая каманда. — Хто ведае Моцарта на памяць? — паўза. — Усе маўчаць... Усе ведаюць..."

Не паспела я спалохацца — маўляў, зараз пачнецца! — як загучала "Маленькая начная серэнада": менуэт, фінал. Здавалася, геній Моцарта і яго чыстых дух сталі спадарожнікамі юных выканаўцаў у гэтым палёце абуджанага натхнення.

Таксама без нот паспрабавалі сыграць трохчастковую "Сэрэнаду" Э. Элгара (тую, што спявалі ў аўтобусе). Маэстра ўдакладніў: "Гэта — "праверка дакументаў". І ўсяго, чаму я вас вучыў". І — па ходу: "Не так страшна, аказваецца!" І — пасля: "Усё ж Элгара будзем іграць па нотах. Даставайце!" І — тут жа: "Не! Нічога не трэба! Сыграем "Арыю" Баха. Гэта ж як малітва, як крыніца... Вы можаце граць яшчэ больш натуральным гукам, калі будзеце не "вылічваць", а ствараць непаўторную атмасферу. Калі вы пачнеце стасавацца не смыкамі, а душамі, адбудзецца цуд. Вочы ў вочы — і гаварыць нічога не трэба". Пры канцы твора: "Ці мала што мне ўспадзе на думку. Я — музычны самадур, ведаеце... Праверым акустыку, "Ave Maria" сыграем..."

Не даводзілася пакуль бываць на яго індывідуальных уроках у ліцэі, гасцяваць у яго знакамітым 56-м класе. Але ў вандроўных умовах зазвычай распазнаеш чалавека хутка і досыць дакладна. Тым болей, калі шырокая лідэрская натура неўтаймоўна мкне да самарасkрыцця.

Пры чарговым пераездзе Уладзімір Паўлавіч мог, шчыра захапіўшыся ўбачаным праз вакно краявідам, з гэткай жа шчырасцю і верай распавесці дзецям пра стваральніка ўсяго існага, Айца нябеснага, якога трэба памятаць, адчуваючы сувязь з ім, і тады будзе дадзена "звыш"... Падзяліўшыся словамі даходлівай, як "Ойча наш", малітвы, маэстра мог доўга чытаць вершы, лірычныя і філасофскія, смакуючы мудрыя радкі ўлюбёнага свайго Амара Хаяма. І ўрэшце — дамовіцца нарэшце супольнай медытацыі для абодвух калектываў: каб настроіцца на выступленне, падсілкаваць адно аднаго духоўнай энергіяй... І прамовіць нібыта між іншым: "Другую частку вы ўчора геніяльна гралі!" Хаця ўчора перад выходам на сцэну музыканты маглі атрымаць несуцяшальны аванс: "Ве-ельмі добра! Вось гэта і ёсць тое музычнае смецце, якім вы збіраецеся частаваць публіку..."

Мне было няцяжка зразумець, што за прыёмамі



*Лаўрэаты міжнародных конкурсаў Ірына ЦЫМБАЛ ды Ігар КОЛБ у па-дэ-дэ са "Спячай красуні".*

"шокавай тэрапіі", за "выбуховым" голасам хаваецца дабрыня і любоў да дзяцей — у гісторыі ліцэя, дарэчы, падобным прыкладам быў незабыўны дырэктар І. Р. Герман, якога "баяліся" і любілі вучні некалькіх пакаленняў. У музычнай педагогіцы трапляюцца невытлумачальныя феномены...

А між іншым, для У. Перліна гэтыя гастролі былі не з лёгкіх. З ім ехаў ужо не той маналітны калектыў, які з трыумфам выступаў у Англіі, Германіі, Нідэрландах і Францыі, зрабіў фондавыя радыёзапісы, выдаў кампакт-дыск. Мінулай восенню кіраўнік мусіў брацца фактычна за перастварэнне аркестра: выпускнікі ліцэя пакінулі яго, са старога складу засталося толькі трое. Давялося збіраць па класах амаль два дзесяткі струннікаў, з індывідуальнасцяў ствараць супольнасць, новы ансамбль. Гастролі падкінулі шэраг матэрыяльных праблем. Да ўсяго, ехаць былі вымушаныя няпоўным складам.

І як жа цудоўна, што выбітны сам па сабе факт — альянс ды першыя супольныя гастролі юных прафесіяналаў-музыкантаў ды заўтрашніх артыстаў балета — быў у выніку напоўнены мастацкім плёнам, акрылены поспехам!

На першай жа рэпетыцыі пані Каліціньска ўхваліла гранне, а ў артыстычным дырыжоры адзначыла нават рэжысёрскі талент. А яшчэ — падзялілася сваім захапленнем ад ігры дыпламанта Міжнароднага конкурсу імя Ф. Шапэна Андрэя Паначэўнага, цяпер частага госця ў Польшчы. Згадала ягоную настаўніцу, прафесара Л. С. Шаламенцаву. Згадала іншых маладых нашых піяністаў — Ц. Сергяеню, Ю. Сяргея. І зрабіла выснову пра высокі ўзровень беларускай фартэпіяннай школы, якая сёння "мабыць, нават лепшая, чым у Польшчы". Такое прызнанне ад польскага сэрца — не проста салодкі камплімент, а сапраўды дарагая адзнака.

●

У Пулавах быў аншлаг. Публіка сімпатычная, зычлівая, невыпадковая. Сівыя мужчыны, салідныя пані, дзеці-дашкалята, моладзь. Адчувалася: папрыходзілі сем'ямі. Адчувалася рэакцыя шчырых і дасведчаных у мастацтве людзей. Авацыя — дырыжору. Музыкантам. Моцарту. Апладысменты загадкавай Асце Базявічутэ і акрыленаму Максіму Войцюлю, апладысменты міжнародным лаўрэатам — зіхатлівай Ірыне Цымбал і далікатнаму Ігару Колбу, авацыі палётнаму скачку Ігара Сядзько...

(Дарэчы, шэсць нашых юных балетных пар на чале з Людмілай Георгіеўнай Сінельнікавай былі ўзорам працавітасці, пунктуальнасці, дысцыпліны і мужнасці. Нават дзяўчынкі, гэткія крохкія бесцялесныя істоты, з выгляду ці не на пяць гадоў маладзейшыя за свае, не прызнаваліся ў стомленасці, у благім самапачуванні, штодня прасілі ўрока. Таму калі для іншых раніца пачыналася з клопату — як не спазніцца на сняданак, для юных балерын і танцоўшчыкаў пачаткам быў станок, а потым ужо — сталаванне. Праўда, і сярод музыкаў выдавалі сябе апантаныя прафесійнікі: уранні, а то і пасля канцэрта, аднекуль — праз сцены, праз столь — ляцеў голас альта, скрыпкі...)

З нагоды канцэртнага аддзялення імпрэзы я неаднойчы са шкадаваннем думала, што ў аркестра толькі два самастойныя нумары і што які быў бы эфект, калі б фрагменты са "Спячай прыгажуні", "Дон Кіхота", "Жызэлі" ды "Баядэркі" ішлі не пад фанаграму, а пад "жывы" акампанемент. Але для гэтага спатрэбіўся б вялікі сімфанічны аркестр...

Тым часам і нашы юныя артысты, і радасныя гледачы перажывалі антракт — у чаканні галоўнага: "Паланеза". Вось уступны меланхалічны маналог фартэпіяна падхапілі струнныя, над якімі раз-пораз лунае спавядальнае бельканта флейты (тэмбравая знаходка У. Перліна; салістка — Даша Бельцюкова). Паланез, кадрыля, вальс, мазурка... Змена рытмаў, настрояў, пластычна-гукавых вобразаў. Змена партнёрскіх стасункаў на сцэне... Пры канцы дзеі чыннікі яе на некалькі хвілінаў зніклі за кулісамі, а музыкі прымоўклі, чакаючы сола раяля. І Люба Пятрова кранула клавішы, і толькі-толькі пазначыўся пранізлівы матыў "Развітання з радзімай", як зала выбухнула воплескамі. Такога не чакаў ніхто...

А музыка працягвала жыць, яе падхопліваў аркестр. І пад настальгічныя гукі рэпрызы на сцэне зноў з'явіліся постаці юных дансёраў, і красамоўны стоп-кадр выклікаў несканчоную авацыю, якую праціналі воклічы "біс!". Але маэстра, на чыім твары адлюстравалася "рэвалюцыя" ў зале, узлёт эмоцый і шчаслівае здзіўленне, трымаўся пастаўленай кропкі. Пра што потым сам жа шкадаваў: "Паланез" трэба было паўтарыць..."

Яшчэ адзін штрых: на сцэну і за кулісы чародкамі пайшлі гледачы — па аўтографы. Тут я звярнулася да шляхетнага дзядулі з маленькім дзяўчом побач. Глядач аказаўся невыпадковы: сын ягоны танцуе ў балеце варшаўскага Вялікага тэатра, цікавіцца танцамі ўнучка. І прыемна было пачуць ад суразмоўцы, што паказанае беларускімі выканаўцамі — прыгожа, салісты цудоўныя, музыкі выдатныя.

На ўспамін Пулавы пакінулі не толькі радасць поспеху, а і сонечныя нядзельныя малюнкі палацава-паркавага ансамбля Чартарыйскіх (17—18 стст.) над Віслай, і "стыхійнае", пасля канцэрта, падарожжа ў казачны сярэднявечны куток, улюбёную мясціну польскай багемы Казімеж-Дольны, з яго ціхім начным жыццём на пакручастых вулках, пад апекаю таямнічых заснежаных гор.

Неўзабаве пабачылі мы і ці не самую старажытную "каменную кветку" Польшчы — Торунь з яе гатычнымі касцёламі, замкам, ратушай і захаваным з 14 ст. домам, у якім нарадзіўся "той, хто спыніў Сонца і прымусіў круціцца Зямлю" — Мікалай Капернік. А праз пару гадзін кіравалі ўжо на Гданьск...

●

Сустрэў нас цёплы гасцінны дом — харэаграфічная школа, якая лічыцца лепшай у Польшчы. Утульна, камфортна, усё — з творчым густам, а ў сталоўцы яшчэ й з хатняй шчодрасцю ды смакам.

Дырэктар школы (ён жа дырэктар Гданьскага балета) Браніслаў Прадзыньскі стаў нашым экскурсаводам па інтэрнаце ды вучэбных памяшканнях. Існуе школа з 1950 г. Будынак, у якім яна месціцца сёння, робіць уражанне сучаснага



*На сцэне — "Паланез".*

і нават новага, але гэта вынік рэгулярных рамонтаў і мадэрнізавання старой камяніцы. Урокі тут пачынаюцца з добрых зычэнняў кіраўніцтва — праз радыё. Заканчэнне заняткаў замест званкоў абвяшчаюць фанфары з папулярнага балета Чайкоўскага. На 215 вучняў — 6 балетных залаў, "сілкоўня" са спартыўнымі прыладамі, трэнажорамі, шведскай сценкай, сауна і лазенка для гідрамасажу, кабінет для фізіяпрацэдур, класы для музычных заняткаў, балетны магазін, бібліятэка з чытальняй. Увагу нашых педагогаў надоўга прыцягнуў альбом школы — салідны летапіс, хроніка падзей, спісы выпускнікоў з пазнакай месца іх цяперашняй працы, падборка газетных публікацый, каляровыя фота.

Раптам Г. Сінельнікава пазнала на здымках сваю калежанку, з якой вучылася ў ГИТИСе. Неўзабаве і сустрэла яе. Нечаканасцю было пабачыць сярод гданьскіх педагогаў і колішняга саліста Кішынёўскага тэатра, які прыязджаў на гастролі ў Мінск, і выпускніцу Мінскага харэаграфічнага вучылішча 1969 г., а ў ліку адметных выхаванцаў Гданьскай школы пачуць імя дачкі экс-прэзідэнта Валенсы...

Нечаканасцю сталася і наша кароткае пазапланавае падарожжа. У той час, як Я. Паплаўскі вырашаў праблемы тэхнічнага забеспячэння, а Г. Сінельнікава ды салісты асвойвалі глыбіню наздвычай прасторнай сцэны і яе адмысловае пакрыццё, У. Перлін (якому ў гэтых мясцінах давялося некалі працаваць) заклікаў усіх іншых ахвяраваць гадзінку на тое, не пабачыўшы чаго "можна лічыць сваё жыццё змарнаваным". Мы і паехалі. Паблізу Гданьска — Сопат. Утульнасць вулак фешэнебельнага курорта. Чародка гор на гарызонце. Сляпучы ад сонца снегавы пляж. І — лебядзінае мора! Грацыёзныя белакрылыя птушкі, з'явіўшыся раптам, ніадкуль, нібыта з пены марской, гайдаліся між кавалачкаў пакрышанай крыгі, потым апаноўвалі бераг і нарэшце не тое што даверліва — бесцырымоннай зграяй падступалі да людзей, патрабуючы пачастунку...

Але галоўным аб'ектам нашай экскурсіі быў касцёл непадалёк, у Аліве, — з магутным арганам, быццам увянчаным вітражнай выявай панны Марыі ды атуленым цемнымі нерухомымі хвалямі дзівоснага пластычнага штукарства з драўніны. Незямны арганавы голас, пра які захоплена распавядаў маэстра, мы, на жаль, не пачулі: зіма для яго — час маўчання...

Затое Гданьск неўзабаве пачуў голас маладога беларускага мастацтва, якое вітаў авацыямі, воклічамі "брава!", кветкамі. (Дружалюбная падтрымка залы адчулася і ў той прыкры момант, калі з-за тэхнічнай недарэчнасці ў разгары танца паслізнулася наша салістка).

Акрыленыя прыёмам, у "Паланезе" танцоры гэтак разняволена луналі ў сцэнічнай прасторы, што рызыкавалі "падчапіць" і ўцягнуць у свой рух не менш натхнёных музыкаў... Зноў патанулі ў воплесках кранальныя гукі раяля. І цяпер ужо "Развітанне з радзімай" выконвалі на "біс".

Колькі потым было добрых слоў! Прадстаўнікі беларускага консульства дзякавалі за поспехі ў справе адраджэння нашай музычнай спадчыны, згадвалі, дарэчы, і "Беларуска-польскія музычныя сустрэчы", наладжаныя "Капэлай" у 1993 г. Тады ў арт-фае гэтага ж будынка выступаў ансамбль "Класік-Авангард" са спеваком Віктарам Скарабагатавым (яго ў Польшчы ўжо добра ведаюць), з гітарыстам Валерыем Жывалеўскім, і гучала музыка нашай мінуўшчыны, дапоўненая творамі цяперашніх беларускіх ды польскіх кампазітараў...

Спецыялісты з Гданьска шчыра прызналі перавагі беларускай харэаграфічнай школы і напрасіліся да Г. Сінельнікавай на ранішні ўрок. Віншавалі нашу таленавітую артыстычную моладзь, захапляліся гасцямі, якія не проста выступалі, а "душою спявалі".

●

Кульмінацыйны пункт вандроўкі — Варшава. Сталічная сцэна, публіка, спешчаная высокімі ўзорамі мастацтва...

Гісторыя захавала сведчанне таго, што беларускія танцоры (гродзенскія — з тэатра А. Тызенгауза ды слонімскія — М. Каз. Агінскага) склалі аснову колішняга каралеўскага балета Варшавы. Два стагоддзі мінула, пакінуўшы хваравітыя прагалы ў гістарычнай памяці, на якіх вельмі марудна ўзнаўляецца праўдзівая інфармацыя пра традыцыі ды развіццё нашых культур. Але, відаць, на нейкім падсвядомым узроўні жыве іх узаемапрыцягненне, і сувязь беларускіх "балетніц" ды "балетнікаў" з польскім харэаграфічным мастацтвам ладзіцца ў духу новых і годных суседскіх стасункаў. У гэтым пераканалі гданьскія сустрэчы. Гэта пацвердзілася і ў сталіцы.

Дзённую рэпетыцыю наведала дырэктар Канцэртнага бюро Малгажата Блох-Вішнеўска, якая паведаміла мне, што з Гданьска ўжо даляцела добрая слава пра мінскую імпрэзу і можа ўзнікнуць ажыятаж вакол білетаў. (Дарэчы, аператыўна спрацоўвала ТБ і радыё: Люблінскае — у Пулавах, Гданьскае, Варшаўскае). Падбадзёрыла і неспадзяваная прысутнасць земляка — былога саліста ДАВТа Беларусі Аляксандра Рымашэўскага: цяпер ён рэпетытар, педагог, разам з жонкай працуе па кантракце ў Варшаве. Дый наогул — Вялікі тэатр, гэтая велічэзная будыніна, у якой лёгка заблытацца-згубіцца, сустрэў нас гасцінна, зычліва. Гаспадары дапамагалі арыентавацца ў кулуарах, цікавіліся невядомым у Польшчы аўтэнтычным, аўтарскім варыянтам "Развітання з радзімай", далікатна прыладжваліся з крэселкам, каб паслухаць, як рэпеціруе за кулісамі беларуская піяністка.

Рэпетыцыя на сцэне была бязлітасная. "Падаецца, што вы граеце для пакаёвага сабачкі, які сядзіць насупраць вас! Тут трэба максімальна ўзбуйніць гук! На поўны голас!" — шчыраваў маэстра. "Зусім сумны твар! З такім тварам нельга танцаваць на сцэне! Катлеты смажыць — можна!" — вяла свой "кантрапункт" харэограф. Рыхтаваліся да вячэрняга выступлення і выхаванцы Варшаўскай балетнай школы: у знак сяброўскага прывітання яны паказвалі пару сваіх нумароў пад акампанемент раяля, а потым ішла ўжо мінская імпрэза.

Выступалі ва ўтульнай камернай зале тэатра, на вялікай сцэне якога мусіла быць прэм'ера оперы "Мазепа" (праўда, з-за хваробы саліста спектакль адмянілі, так што вечар у вялікім тэатральным доме быў цалкам наш). Публікі аказалася звыш колькасці крэслаў, нават з улікам дадатковых. Не цырымонячыся, людзі ў прыгожых апратках сядалі проста на падлогу. Настолькі шчыльна ўладкоўваліся, што ўладальнікам пераносных крэслаў не выпадала й паварушыцца, каб не зачапіць кагосьці туфлікам. Але гэта — між іншым, бо ўвагу паглынула сцэна. Усё ішло з такім уздымам і дынамікай, што здавалася, быццам і на фанаграме музыка паскорыла тэмп! Чулая падтрымка залы засведчыла поспех выступлення, дый самой творчай ідэі, самой акцыі дзеячаў беларускай культуры.

Сярод прадстаўнічай варшаўскай публікі былі дзеячы мастацтва, крытыкі, журналісты. Была і Альжбэта Смулэк, добры сябра аб'яднання "Беларуская Капэла" ў часе яе дзейнасці як пасла Польшчы ў нашай дзяржаве. І музыколаг Аліна Жураўска, спецыяліст у музыцы 18 ст., якая мае намер правесці ў Польшчы міжнародную канферэнцыю па праблемах музычнай спадчыны блізкіх культур Беларусі, Летувы, Украіны, Польшчы. І музычны менеджэр Рышард Астраменцкі, зацікаўлены ў запрашэнні на сваю арт-пляцоўку камерных выканаўцаў, салістаў з Беларусі.

Падчас прыёму, наладжанаму ў кулуарах тэатра, намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы пан Міхал Ягела дзякаваў беларускім сябрам за святочны вечар, які прадоўжыў развіццё і ўмацаванне нашых культурных сувязяў. Было прыемна пагутарыць з даўняй знаёмай — супрацоўніцай міністэрства Алінай Шаламіцкай, якая стала курыруе беларуска-польскія стасункі ў сферы мастацтва і з прыемнасцю адзначае вялікую цікавасць у Польшчы да культурных сувязяў з Беларуссю, што асабліва адчуваецца ў Гданьску. Шчыра парадавала ўбачанае і нашага галоўнага на той час дыпламатычнага прадстаўніка ў Польшчы — саветніка Беларускага пасольства Мечыслава Часноўскага. Ён ад імя беларускай меншасці, якая прысутнічала ў зале, падкрэсліў важнасць гэтай высокамастацкай імпрэзы. Маўляў, важна было паказаць не "сярмяжнае", не этнаграфічнае мастацтва, а яго высокі прафесійны ўзор, прэзентаваны маладымі талентамі нашай дзяржавы. Дарэчы, спадар Часноўскі расказаў пра зацікаўленыя двухбаковыя захады па арганізацыі сёлета ў Варшаве Дзён беларускай культуры.

...Апоўдні заўтрашняга дня мы мусілі ўжо кіравацць у бок мяжы. Аднак гаспадары падоўжылі наша спатканне з мастацкім светам Польшчы. Пакінуўшы атэль, мы паехалі на радзіму Шапэна, генія чалавецтва, гонару палякаў, імем якога асабліва даражым і мы. (Згадайма, што менавіта М. Кл. Агінскага лічаць прадцечаю Шапэна ў жанры фартэпіяннага паланеза, згадайма, якія шчырыя стасункі былі ў маладога Шапэна з нашчадкам слыннага беларускага роду — Антоніем Генрыкам Радзівілам...).

50 кіламетраў — і мы ў легендарнай Жалязовай Волі, дзе захаваўся радзінны дом, у якім з'явіўся на свет будучы кампазітар. Пасля экскурсіі па сямейных пакоях мы апынуліся ў музычнай гасцёўні — той самай, дзе цёплай парою ладзяцца знакамітыя на ўвесь свет канцэрты пры расчыненых вокнах, калі музыка ляціць у парк і там яе таксама слухае публіка. Зімою вокны зачыненыя, і жыццё, здаецца, заціхае, але... Не так даўно тут, аказваецца, даваў канцэрт наш Андрэй Паначэўны. А цяпер вось прыехаў у Жалязову Волю польскі піяніст Філіп Вайцяхоўскі, каб пайграць для нас. І калі гучаў адзін з Шапэнавых паланезаў, расступіліся хмаркі, сонца зазірнула ў вакно, за якім быў першы дзень вясны...

Вярнуўшыся ў Варшаву, мы атрымалі магчымасць сяк-так адпачыць у адчыненым для нас класе балетнай школы, каб увечары зноў апынуцца ў Вялікім тэатры. Цяпер — у якасці гледачоў. У праграме харэаграфічнага вечара была сучасная пастаноўка на музыку авангарднага польскага кампазітара Г. Гурэцкага ды арыгінальная версія "Вясны свяшчэннай" генія рускай музыкі І. Стравінскага, чые беларускія карані досыць далёка схаваліся ў радаводзе, але не настолькі, каб сёй-той сяды-тады пра іх не ўспомніў...

Перапоўненыя ўражаннямі, стомленыя і радасныя, мы пакідалі Варшаву. Упершыню за тыдзень вандроўкі пайшоў снег, надаўшы ёй зусім класічную трохчасткавую форму: снег — сонца — снег. І ўсё, кропка пастаўлена? Але ж чаму так любіць жыццё шматкроп'е ды пытальнікі? Асабліва, калі гэтае жыццё спакроўлена з творчасцю, з мастацтвам? Чаму наш маэстра неаднойчы летуценна выгукаў: "Праехаць бы з "Паланезам" па ўсіх ваяводствах Польшчы!.."

А чаму б і не? У разуменні ды поспеху гэтага свежага адмысловага відовішча можна не сумнявацца. Вось толькі праблемы арганізацыйныя, матэрыяльныя, фінансавыя... Ды іх вырашэнне залежыць, як вядома, не ад людзей мастацтва.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# ДА СУСТРЭЧЫ, ЗЕМЛЯКІ!

Калі фальклорны ансамбль "Шчодрыца" атрымаў запрашэнне на Дні беларускай культуры ў Эстонію, было шмат сумненняў. Мала таго, палова ўдзельнікаў, як спецыяльна, захварэла на грып, дык яшчэ і мастацкі кіраўнік Ірына Грамовіч ды некалькі салістаў у гэты час былі ў Францыі. Вось і засумняваліся хлопцы і дзяўчаты: ці зможам годна прадставіць беларускае народнае мастацтва, ці не падвядзём? Абмяркоўвалі, спрачаліся, і ўсё ж вырашылі: ехаць. Бо запрасілі свае, браткі-беларусы, — суполка "Бацькаўшчына", бо чакае сустрэча з тымі, хто сёння аказаўся па-за межамі радзімы, але сэрцам застаўся беларусам. І, відаць, патрэбна ім і слова роднае, і песня пявучая, і агнявая полечка-трасуха.



Тыдзень напружаных рэпетыцый — і вось мы ўжо ў аўтобусе. Разам з намі — іншыя ўдзельнікі дэлегацыі: Ірына Сініца, дырэктар фірмы народных рамёстваў "Скарбонка"; гарманіст Міхаіл Слізкі; майстар мастацкай выпечкі Валянціна Уласік, а таксама вядомыя дзеячы Згуртавання беларусаў свету Ганна Сурмач ды Іна Петухова. Кіраўнік дэлегацыі — Тадэвуш Стружэцкі, начальнік Упраўлення Міністэрства культуры і друку Беларусі, які прыклаў шмат намаганняў, каб гэтая паездка адбылася.

Наперадзе — больш за тысячу кіламетраў. Ехалі весела, але ўсё ж вырашылі дарогай не спяваць, берагчы галасы.

Праз 17 гадзін — Талін. Сустрэлі нас гасцінна: добра размясцілі, смачна частавалі. Вакол — прыўзняты настрой, беларуская мова. Тон усяму задавала Ніна Савінава — старшыня тамтэйшай суполкі, яе стваральніца і, безумоўна, яе душа. Выпускніца Мінскага інстытута культуры, рэжысёр па адукацыі, асоба яркая і творчая, яна, як магніт, прыцягвае ў суполку самых розных людзей, з'яднаўшы іх нацыянальнай ідэяй.

Ніна — вялікі патрыёт Беларусі, апантаная праблемай здзяйснення своеасаблівай праграмы карысных спраў для жыццяздольнасці суполкі. Гэта і стварэнне беларускамоўнай прэсы, школ і курсаў па вывучэнні мовы, сустрэчы з беларускімі артыстамі і вядомымі самадзейнымі калектывамі, з пісьменнікамі і мастакамі, адраджэнне нацыянальных свят, абрадаў, рамёстваў. І дзеля гэтага не шкадуе ні сіл, ні часу. Яна здолела аб'яднаць вакол сябе маладых бізнесменаў, эканамістаў, юрыстаў, якія забяспечваюць матэрыяльную падтрымку суполкі. Усе яны, беларусы па паходжанні, вельмі ганарацца гэтай сваёй новай дзейнасцю і імкнуцца яе пашыраць. У планах — стварэнне вялікага цэнтра беларускай культуры, адкрыццё турыстычнага маршрута "Талін-Мінск" і некалькіх эстонскіх супермаркетаў у сталіцы ды іншых гарадах Беларусі, дзе асабліва багата будзе прадстаўлена рыбная прадукцыя. Плануецца і адкрыццё беларускіх праграм на Эстонскім радыё і тэлебачанні, дзе б шырока гучала беларускае слова, песня, музыка.

Адным з крокаў па выкананні гэтых планаў і сталася свята беларускай культуры, на якім апынуліся мы.

Зала Рускага дома, як яго называюць талінцы (былога Дома афіцэраў), у той вечар была перапоўнена. Вечарыну беларускай суполкі віталі прадстаўнікі Міністэрства культуры і асветы Эстоніі, шматлікіх пасольстваў і консульстваў, рускіх і ўкраінскіх суполак, дзеячы культуры, паэты. Усё было ўзнёсла, прыгожа, урачыста. Сцэна была ўпрыгожана мастацкімі вырабамі "Скарбніцы", а на сталах, як на вяселлі, расстаўлены непаўторныя вырабы Валянціны Уласік: вясельныя каравагі і кошыкі з рознакаляровай садавіной і кветкамі з цеста. Калі аб'явілі "Шчодрыцу", у зале раптам успыхнулі ўсе люстры, удзельнікі вечарыны падняліся і стоячы, моцнымі апладысментамі віталі нас. Мы ж, усхваляваныя, з песняй, пад музыку па двух шырокіх праходах падняліся на сцэну і з гэтым незабыўным хваляваннем пачалі свой канцэрт. Паўтары гадзіны, якія ён доўжыўся, нашы гледачы смяяліся і смуткавалі разам з намі, чула адгукаючыся на кожнае пачуццё, слова, жарт. Асабліва спадабаліся песні "Ой, там за гарамі", "Чарачка мая", "Ой, хадземо, жонка", аркестравыя п'есы "Калядкі" і полька "Шабасоўка", беларуская жартоўная кадрыля (у пастаноўцы балетмайстра В. Іванова). Удзельнікі ж ансамбля, адчуўшы такую зацікаўленасць і добразычлівасць, стараліся, як ніколі.

Кульмінацыяй канцэрта сталася агульная беларуская полька, якую ўдзельнікі "Шчодрыцы" станцавалі проста ў зале разам з гледачамі. Трэба было бачыць гэтую незабыўную польку: на сцэне музыкі "рэзалі", не шкадуючы пальцаў, наддаючы тэмпу, а ў зале, не здаючыся, тупалі і вярцеліся ў парах усе госці. Ужо і музыканты стаміліся, да аркестра далучыўся Міхаіл Слізкі са сваім гармонікам, а зала толькі выкрыквала: "Давай яшчэ!" Быццам гэта была не зала эстонскай сталіцы, а простая беларуская гасцінная хата, дзе сабраліся на вячоркі добрыя суседзі. І тады я зразумела ўсю значнасць таго, што робяць Ніна Савінава і яе паслядоўнікі, якія даюць магчымасць нашым суайчыннікам, адарваным сёння ад сваіх вытокаў, адчуць сваю нацыянальную самакаштоўнасць і, нягледзячы на палітычныя павевы, сваю адвечную прыналежнасць да Радзімы. А яшчэ я адчула гонар за тое, што мы, фальклорны гурт "Шчодрыца", таксама далучыліся да гэтай высакароднай справы.

Назаўтра мы развітваліся з прыгожым перадсвяточным Талінам. Нямнога мы паспелі тут паглядзець, але тое, што ўбачылі, спадабалася. Горад быў прыгожа ўбраны елкамі і гірляндамі з хвоі, паўсюль ветліва ківалі цацачныя Дзяды-Марозы. А з наступленнем цемры ўспыхвала багатая ілюмінацыя ў вітрынах, на высокіх будынках і на дрэвах. Асабліва кранула тое, што ў кожным акенцы запальваліся свечкі. Сем маленькіх свечачак, якія павінны свяціць усю ноч, адганяючы ад кожнай хаты злых духаў і запрашаючы добрых. Эстонія, як і ўвесь свет, уступала ў Новы год і спадзявалася разам з намі, разам з усім чалавецтвам на тое, што будзе ён мірны, спакойны і шчаслівы. Год без нацыянальных рознагалоссяў, непаразуменняў і спрэчак. Няхай гэтыя надзеі здзейсняцца, а межы, якія нас падзяляюць па зямлі, не праходзяць па сэрцах. І тады мы яшчэ абавязкова сустрэнемся!

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ,**
**музычны кіраўнік ансамбля "Шчодрыца", дацэнт Беларускага універсітэта культуры**

# ЯКІ ІМПУЛЬС РЭАГАВАННЯ?

## ЗАЎВАГА МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ

Што патрэбна сучаснаму мастаку, каб хутка трапіць у інтэрнацыянальны кантэкст? Не так ужо і шмат.

Па-першае, актуальнасць тэмы, яе сацыяльная завостранасць. Па-другое, трэба трывала засвоіць характэрныя рысы постмадэрнізму: эклектызм, калажнасць, цытаванне, пэўная доза іроніі.

Гэты немудрагелісты рэцэпт нараджае выстава "Рэха маўчання", прысвечаная дзесяцігоддзю чарнобыльскай катастрофы. Праект, рэалізаваны пры садзеянні Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў памяшканні Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, аб'яднаў чатырох мінскіх фотамастакоў — Сяргея Кажамякіна, Галіну Маскалёву, Ігара Саўчанку і Уладзіміра Шахлевіча.

Альянс з сацыяльнай праблематыкай, які характэрны для заходнееўрапейскага (у прыватнасці, нямецкага) мастацтва, знаходзіць і ў нас сваіх прыхільнікаў. Ва ўсе часы пэўнае кола мастакоў шукала натхненне ў той ці іншай сацыяльнай з'яве ці падзеі, грунтуючы сваю творчасць на імпульсе рэагавання. Але нацыянальная трагедыя маштабу чарнобыльскай катастрофы выходзіць за межы штодзённасці. Таму зварот да гэтай тэмы ў мастацтве патрабуе ад творцы неардынарных намаганняў духу і прафесійнага інтэлекту. Што да духоўнага пошуку, то найбольш вычарпальнае ўяўленне аб гэтым працэсе даюць не столькі прадстаўленыя працы, колькі суправаджальныя тэксты каталога. Напісаныя самімі аўтарамі, яны ўражваюць шчырасцю і нечым вельмі асабістым. А вось з прафесійным увасабленнем становішча больш складанае.

Выбар калажу як мастацкага прыёму для выканання большасці прадстаўленых прац паспяхова стварае атмасферу хаосу і парадаксальнасці. Але не менш паспяхова ён хавае няздольнасць мастака аперыраваць больш лаканічнымі сродкамі, а значыць — і няздольнасць вырашыць тэму, адзначаную трагедыйным пафасам. Фрагмент "Гернікі" Пікасо і іканапісныя вобразы не прыносяць тут жаданага паратунку, а толькі абвастраюць кітчавы пачатак банальнага мыслення. Да таго ж, калі мастак робіць стоп-кадры вядомага дакументальнага фільма і дае ім уласную назву (С. Кажамякін, "Чарнобыльская хроніка"), то відавочна, што ён шчыра, пааматарску пераблытаў сутнасць пост-мадэрнісцкага цытавання са звычайным плагіятам.

Але цешыць тое, што застаўся сам сабою Ігар Саўчанка. Ён паслядоўна працягвае распрацоўваць ідэю крызісу выявы, што ўжо само па сабе ўспрымаецца апакаліптычна. Пэўная адасобленасць аўтара ад модных памкненняў наводзіць на аптымістычную думку, што нават калі катастрофа набудзе галактычны размах, мастак не сыдзе са свайго шляху.

Ёсць цікавыя знаходкі і ў новых творах Галіны Маскалёвай, якая асэнсоўвае чарнобыльскую трагедыю парадаксальным чынам — праз варожасць святла. ("Жыццё ў зоне", "Перасяленцы"). Падобны алагізм у спалучэнні з інтуіцыяй жаночай прыроды стварыў вобразы, якія трывожаць падсвядомасць і пакідаюць адчуванне болю.

У цэлым, выстава прымушае гаварыць аб адэкватнасці мастацкіх сродкаў, адчуваць відавочную адсутнасць прафесійнага экспазітара. На жаль, праблематыка праекта вычэрпваецца ўжо на гэтым узроўні ўспрымання. І роздуму аб нашым агульным посткатастрафічным лёсе месца не застаецца.

**Надзея КАРОТКІНА**

# КАБ НЕ ПРАДАВАЛАСЯ... РАДЗІМА

Як вы думаеце, калі гэта напісана?

"Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася з беднаю сваёю зямлёй, са старажытнымі пушчамі, з блакітным крышталём рэк і квітнеючымі лугамі, з вадою і небам, замкамі і халупамі, з матчынай ласкай і ўсмешкай дзіцяці, з мудрымі дзядамі і пяшчотнымі дзяўчатамі, з камянямі старажытных будынкаў, з крывавай гісторыяй народа, з яго сучасным і будучым, з яго воляй.

Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася цалкам і ўразбіўку, за грошы і напавер. Прадавалася кожным, хто не ленаваўся, і кожнаму, хто пажадаў бы, — крывадушнаму другу і крыважэрнаму ворагу..."

Сёння, заўчора? Ці колькі гадоў назад? Памыляецеся: яшчэ ў 1956 годзе! А калі канкрэтней, у сакавіку 1956-га. Акурат такую памету пакінуў, паставіўшы апошнюю кропку ў легендзе "Маці Ветру", "Сакавік 1956 г., Лесавічы".

Уладзімір Караткевіч: "У гэтым творы тады яшчэ малады і мала каму вядомы аўтар, шчыра захоплены гісторыяй Бацькаўшчыны, поўны гарачага жадання расказаць пра найбольш значныя падзеі яе, звярнуўся да Крычаўскага паўстання, што адбылося ў 1743—1744 гадах пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы. Пісьменнік засярodзіў асноўную ўвагу на адным з самых актыўных удзельнікаў яго Ветры. Значна пазней, у 1982 годзе, У. Караткевіч зноў вернецца ў гэтыя часы і напіша добра вядомую сёння драму "Маці ўрагану".

Легенда ж так і не была апублікавана. Як і шмат якія іншыя творы пісьменніка. А што гэта і на самай справе было так, лёгка ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з кнігай У. Караткевіча "Творы", якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Гэта па сутнасці дзесяты том Збору твораў У. Караткевіча (рэдактар — Р. Барадулін, укладанне, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі А. Вераб'я). У яго ўвайшлі творы У. Караткевіча, якія ўдалося адшукаць як на кватэры самога пісьменніка, так і ў папках, што былі перададзены на захоўванне ў архіўныя ўстановы. Акрамя таго, асобныя рукапісы знойдзены сярод папер часопісаў "Полымя" і "Маладосць", куды аўтар іх у свой час прапаноўваў, але па нейкіх прычынах рэдакцыі іх адхілілі. Некаторыя з матэрыялаў былі апублікаваны пасля смерці У. Караткевіча, але пераважная большасць прыйшла да чытача ўпершыню і падаюцца ўкладальнікам у храналагічнай паслядоўнасці.

У раздзеле "Легенды", акрамя ўжо згаданай "Маці Ветру", змешчана і "Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны". Далей у кнізе ідзе аповесць "У снягах драмае вясна". Яна, як вядома, адлюстроўвае падзеі пачатку пяцідзесятых гадоў і была апублікавана ў 1988 годзе часопісам "Полымя", а праз год выйшла асобнай кніжкай.

Змястоўным атрымаўся раздзел апавяданні: "Завеі", "Лясная гісторыя", "Подыхі продкаў", "Аліва і меч", "Пасмяротная гісторыя аднаго цецерука", "Белае полымя", "Лісты не спазняюцца ніколі", "Маленькая балерына", "Вялікі Шан Ян".

Ёсць магчымасць пазнаёміцца з двума раздзеламі з другой кнігі рамана "Каласы пад сярпом тваім", з драмай "Трошкі далей ад Месяца...".

На завяршэнне тома — раздзел "Публіцыстыка". У ім, не пазбаўленыя гумару і досціпу, развагі У. Караткевіча "Ці дажывём да ста год, або Пасмяротнае рыданне", дарэчы, падпісаныя псеўданімам Славамір Цыбаты, і артыкул "Мова (што я думаю пра цябе)". Упершыню ён быў надрукаваны ў кнізе А. Бембеля "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", што выйшла ў Лондане ў 1985 годзе. У. Караткевіч падзяліўся ўражаннямі ад асобных выказванняў, што ўвайшлі ў гэты зборнік, а таксама выказаў сваё стаўленне да роднай мовы.

Ва ўсіх матэрыялах, што склалі "дзесяты" том Збору твораў У. Караткевіча, гучыць заклапочанасць пісьменніка будучыняй Бацькаўшчыны. Хоць і не заўсёды гэта гаворыцца прама і адкрыта (падставы для разваг даюць і згадкі з гісторыі іншых краін, узяць хоць бы гістарычнае апавяданне "Вялікі Шан Ян"), але тым не менш відочны пастаянны клопат аўтара зрабіць усё, каб Радзіма ніколі не прадавалася.

**Н. К.**

## ВЕРНУТЫ НАРОДУ



**Яшчэ дзесятак карцін пэндзля майстроў канца XIX — пачатку XX стст. папоўніў экспазіцыю Брэсцкага музея выратаваных каштоўнасцей. Яны былі канфіскаваны ў кантрабандыстаў, якія спрабавалі перавезці карціны праз мяжу на Захад.**

*На здымку: новыя паступленні прыбаўляюць у музей аматараў мастацтва.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...



**У Шклове вырашылі аднавіць ансамбль гарадской ратушы з гандлёвымі радамі — манументальны помнік грамадзянскай архітэктуры, узведзены ў 1772 годзе і захаваны да нашых дзён. Работы вядзе калектыў участка "Магілёўрэстаўрацыя".**

*На здымку: так выглядае пакуль старадаўняя ратуша.*

*Фота Анатоля МАРУШЭЎСКАГА, БЕЛТА*

## МАЙСКАЯ АФІША ДОМА ЛІТАРАТАРА

**7 МАЯ — "Сінонімы свята". Творчая вечарына Алега Атаманава.**

**14 МАЯ — "Камяні майго вогнішча". Творчая вечарына паэта-барда Андрэя Мельнікава.**

**16 МАЯ — секцыя паэзіі: "Паэзія на старонках часопіса "Першацвет".**

**17 МАЯ — "Горкая радасць вяртання". Вечарына памяці пісьменніка Барыса Сачанкі.**

**23 МАЯ — секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва.**

**24 МАЯ — "Ян Чачот і беларуская народная песня". Да 200-ых угодкаў пісьменніка і фалькларыста.**

**28 МАЯ — секцыя перакладу.**

**28 МАЯ — "Бацька беларускага Адраджэння". Вечарына, прымеркаваная да 115-ых угодкаў Івана Луцкевіча і 75-годдзя Беларускага музея ў Вільні.**

**29 МАЯ — секцыя прозы.**

**30 МАЯ — творчая вечарына паэта Паўла Шруба.**

**Вялікая зала, 18 гадзін 30 хвілін.**

**Канферэнц-зала, 15 гадзін.**

---

Проза

Аркадзь МАРЦІНОВІЧ



# КРЫК ПАРАНЕНАЙ ПТУШКІ СЯРОД ВОСЕНЬСКАЙ НОЧЫ

АПАВЯДАННЕ

ЦЯПЕР, калі Антон Спорык ужо зусім стары, яму з уласнага вопыту вядома, чаму сон у старога чалавека кароткі, а ноч доўгая; такая доўгая, што ў галаве ў яго перавернецца за ноч увесь свет. Ну, гэта, можа, залішне гучна сказана: "увесь свет", бо папраўдзе дык перавернецца ўсё тваё жыццё; але праўда таксама і тое, што ў сваіх несканчонных думках не абмінаеш і свет з яго вечнымі калатнечамі і вечнымі пытаннямі, на якія шукаеш і не знаходзіш адказу.

Так было і ў тую ноч. Ноч позняй восені. А калі дакладна, дык ноч з трыццатага лістапада на першае снежня. Мабыць, не адзін Антон не ведае на памяць, колькі ў якім месяцы дзён — трыццаць ці трыццаць адзін, і ён, перш чым устаць з-за стала, каб неўзабаве класціся спаць, адгарнуў каляндарны лісток і ўбачыў адзінку: першае, значыцца, снежня. Роўна шэсцьдзесят гадоў назад, першага снежня, у Ленінградзе быў але ён глытае іх... Дык хіба я не хворы? — горка ўсміхнуўся сам сабе Антон.

Успамін яго пачаўся з таго дня, калі ён натужна задумваўся, у каго б пазычыць тры рублі. Раніцай ён пайшоў на заняткі ў свой Белпедтэхнікум не еўшы, што, зрэшты, здаралася даволі часта, але цяпер у яго не было грошай і на абед. Учора таксама быў галаднаваты: спажыў за дзень чацвярцінку хлеба і пяцьдзесят грамаў маргарыну, калі не лічыць кіпню, якога ў інтэрнацкім тытане было ўдосталь заўсёды. Ды які ж з пустой вады наедак?

Ён сядзеў на занятках, стараўся слухаць настаўніка, але ад голаду смактала пад лыжачкай, цямнела ў вачах, і яго ўвага да таго, што адбывалася на ўроку, знікала, і галаву свідравала тое самае: у каго пазычыць тры рублі? Пра хлопцаў са сваёй групы не варта было і думаць, амаль усе яны жылі бедна, перабіваліся з капейкі на капейку; у чалавека, які даў бы яму тры рублі. Упершыню ён убачыў гэтага чалавека праз тыдзень пасля свайго прыезду на вучобу. Тут трэба сказаць, што хоць на той час Антону ішоў толькі семнаццаты год, ён ужо таіў мару стаць паэтам і прывёз з сабой у дашчаным чамаданчыку раённую газету, дзе былі надрукаваны аж два яго вершы. У педтэхнікуме выходзіла вялізная насценная газета, яе першы пасля летніх вакацый нумар з'явіўся ўжо на трэці дзень пасля пачатку заняткаў і быў прысвечаны новаму навучальнаму году: змешчаны быў у газеце і верш нейкага Ігнатовіча. Калі Антон падышоў да газеты, там тоўпілася некалькі чалавек. Ён адразу ўткнуўся ў верш. Гэта заўважыў танклявы высокі хлопец з віхрастай чупрынай. "Ну, як верш?" — запытаўся ён у Антона. "Добры верш", — пахваліў Антон. Яны пагаварылі і пазнаёміліся, гэта быў Ігнатовіч, аўтар верша. Ад яго Антон даведаўся, што ў Доме пісьменніка ёсць

забіты Сяргей Кіраў. Дата гэтая запомнілася Антону з ранняга юнацтва, а пасля не давалі забыць яе газеты, ды кнігі, ды календары, а яшчэ тое, што гэтым іменем былі названы аж некалькі гарадоў, тысячы заводаў, калгасаў, вуліц, плошчаў, — гэта было зроблена па волі дыктатара, каб такім грандыёзным ушанаваннем Кірава заглушыць праўду пра ўчынены над ім гвалт. І вось на заўтрашнім лістку календара няма ні слова пра тую падзею. Дык што: праўда ўзяла верх? Бо чалавек, якога па-бандыцку пазбавілі жыцця, такі самы, як і тыя, што ўчынілі гвалт над ім? Напэўна, правільна гэта: і ўсё ж нейкая нязгода з чымсьці абзываецца ў Антона. Але дадумваць да канца гэта ён не захацеў: ноч жа, даўно пара спаць, дык лепш не развярэджваць сябе думкамі. Ён устаў, прысунуў крэсла да самага стала, зняў з сябе халат, паклаў яго на крэсла, выключыў настольную лямпу. У пакоі стала цёмна, акно ледзь святлелася, і не з-за фіранкі — яна тонкая, белая, празрыстая, — на двары было цёмна: восень жа, хмарнае неба, а па-другое — крызіс эканомікі, пераход да рынку... — і вось беражэцца электраэнергія нават на вулічных ліхтарах. Але ад стала да ложка толькі некалькі крокаў, і Антон нават у цемры робіць іх хутка: плечы, як толькі зняў з сябе цёплы халат, адчулі халадок; адкуль жа быць цяплу ў кватэры, калі батарэі ледзь цеплаватыя, зноў жа — эканомія паліва, яно дарагое, яго мала. А сонца ж ужо не грэе, заўтра пачнецца зіма — пакуль што толькі каляндарная, у прыродзе трымаецца восень. Зямлю яшчэ і не прыцярушыў снег. Антон шчыльна ўкрыўся коўдрай і заплюшчыў вочы. Якая яна будзе, сёлетняя зіма? З кім ні загаворыш, усе напалоханыя прагнозамі і чуткамі, што зіма будзе халодная, што будуць перабоі з гарачай вадой у кватэрах і нават з электраэнергіяй.

Ён думаў пра восень ды пра зіму, а паміж гэтымі думкамі не-не ды і паўстане заўтрашні лісток календара, чысты, без упамінку пра Кірава, і тады нейкая трывожная нотка затрымцiць у душы. Спачатку ён стараўся не затрымлівацца ў сваіх думках на гэтым лістку календара, не ўслухоўвацца ў трывогу, што абзывалася ў ім. Але пытанне, якое торкалася недзе ў глыбіні яго свядомасці, усё ж вырвалася на паверхню: "А што было пасля забойства Кірава?" І тут Антонавы думкі заняла іншая восень, даўняя, і не проста адна з многіх пор года пражытага ім жыцця, а менавіта восень трыццаць шостага, калі да самага свайго піку даходзіла страшная хваля, разгайданая забойствам Кірава... Колькі ж гэта гадоў мінула з той восені?.. Ах, які ты стары, Антоне!..Ён уздыхнуў, усё яшчэ лежачы з заплюшчанымі вачыма, хоць ведаў, што сон няхутка адолее яго. Ды ўжо і не хацеў гэтага. Тая, успомненая, восень была горкая, цяжкая, але ён чамусьці і не імкнуўся адкаснуцца ад успамінаў, наадварот, яму быццам трэба было зноў перажыць даўні боль; найчасцей жа і лякарствы, з дапамогай якіх хворы чалавек вылечваецца, горкія, непрыемныя, двух-трох, як здагадваўся Антон, меліся грошы, але не столькі, каб імі раскідвацца, ды і хлопцы гэтыя такія скупярдзі, што не выпрасіш у іх. Маглі б, напэўна, пазычыць грошай некаторыя з дзяўчат, яны, па сваёй жаноцкай прыродзе, больш ашчадныя і гаспадарлівыя. Але хіба ён адважыцца прасіць грошай у дзяўчыны? Заставалася адно: звярнуцца да кагосьці з настаўнікаў, што вялі сення заняткі. Такіх было трое: настаўнік беларускай мовы Гурыновіч, матэматык Жухавіцкі і географ Гуліда. У першых двух Антон пазычаў грошы ў мінулым месяцы, і хоць доўг ім аддаў, але яму было б дужа няёмка зноў турбаваць гэтых добрых людзей. Думаючы пра Гуліду, Антон прыгадаў, што той аднаму студэнту не пазычыў грошай, сказаў, што не мае іх пры сабе. Напэўна, ён сказаў праўду, але калі Антон уявіў, як неўзабаве, у перапынку між урокамі, ён падцікуе Гуліду ў калідоры і, перамагаючы сорам і хваляванне, вымавіць засмяглымі непаслухмянымі губамі і перасохшым горлам сваю просьбу, а той адмовіць яму, дык Антонава рашучасць слабела. Быў ён залішне сарамлівы ды і ганарлівы. Цяпер, з воддалі часу, ён разумеў, што гэта было ў яго ўроджанае, ад сялянскай сціпласці бацькоў, ад іхняй, таксама ўроджанай, далікатнасці, ды і годнасці, гонару, які ў іх меўся, нягледзячы на тое, што яны, непісьменныя земляробы, знаходзіліся на ніжэйшай сацыяльнай ступеньцы грамадства і вымушаны былі кланяцца ўсім; мабыць, у іх было падсвядомае разуменне, або, лепш сказаць, адчуванне таго, што яны, земляробы, найважнейшыя, бо кормяць і апранаюць усіх — ад самага дробнага чыноўніка да самога цара.

Пачатак жыцця ў вялікім горадзе быў для Антона добры: ім апекаваўся, а папросту сказаць — дапамагаў матэрыяльна старэйшы брат Хведар. І раптам ён апынуўся ў астрозе. Ходкія тады і страшныя словы гучалі паўсюды на сходах і са старонак газет: вораг народа. Без нічыіх тлумачэнняў Антон зразумеў, што брата, арыштаванага ўначы, ахрысцілі гэтымі словамі. Але верыў Антон і ў тое, што брат ніякі не вораг і ні ў чым не вінаваты; а значыцца, яго хутка выпусцяць з астрога, разберуцца і выпусцяць. І тут знайшлося ў Антона смеласці і спрыту, каб папахадзіць па энкэвэдыцкіх калідорах ды папастаяць у чэргах перад маленькімі, а такімі страшнымі акенцамі, пакуль даведаўся, дзе сядзіць брат, ці можна і калі насіць яму перадачы. І ўрэшце Антон купіў на свае бедныя студэнцкія грошы сякіх-такіх прадуктаў і занёс брату. Бацькам нічога не пісаў пра арышт Хведара, не хацеў трывожыць іх, чакаў, што яго хутка выпусцяць. Таму не мог папрасіць, каб бацькі прыслалі пасылку або трохі грошай.

Да стыпендыі заставалася два дні, і трох рублёў Антону хапіла б дажыць да яе. Але мінаў урок за ўрокам, перапынак за перапынкам, а ён ні на што пэўнае так і не наважыўся. Ды раптам, ужо на апошнім уроку, у думках у яго паўстала постаць кабінет маладога аўтара. І праз два ці тры дні ён выправіўся туды пасля заняткаў. У кішэні ў яго ляжалі акуратна складзеныя лісткі з вершамі. Ісці было недалёка. Дом пісьменніка знаходзіўся на той жа Савецкай вуліцы, што і педтэхнікум. Ішоў Антон хутка, хваляваўся і міжволі прыспешваў крок, ды і халадок падганяў, хоць восень толькі пачыналася: дзень выдаўся пахмурны, ветраны, а быў Антон у адным і адзіным сваім пінжачку. Мінуў адзін квартал, другі, а на рагу Ленінскай перайшоў на другі бок Савецкай вуліцы. Неўзабаве, калі ўжо зусім блізка быў Дом пісьменніка, Антон кінуўся ў вочы постаць чалавека наперадзе, які, ідучы, з кожным крокам збочваў налева, і Антону падумалася, што той ідзе таксама ў Дом пісьменніка. "Можа, пісьменнік?" — мільганула ў яго здагадка, і ён, каб не абагнаць чалавека, стаў ісці памалей. Той ішоў таксама памалу, паважна, злёгку абапіраючыся на кіёк; на галаве ў яго быў капялюш, надзеты роўненька і прыгожа. На той час Антон не бачыў у жыцці ніводнага пісьменніка, калі не лічыць іх партрэтаў у падручніках ды газетах, і ённазіраў за чалавекам у капелюшы, адстаючы ад яго на пяць-шэсць крокаў.

Вось ужо і Дом пісьменніка. Чалавек у капелюшы крута павярнуў налева, і Антону стаў бачны яго твар. Антон збянтэжыўся і ажно прыпыніўся, верачы і не верачы сваім вачам. Яму здалося, што гэта Янка Купала, і ён спалохана ўзіраўся ў яго твар, прыпамінаючы партрэт паэта ў яго кнігах ды падручніках. У гэты момант з дзвярэй Дома пісьменніка выйшлі двое мужчын, адзін з іх усклікнуў; "О! Ян Дамінікавіч!" Менавіта так Антону пачулася: Ян, а не Іван, як пісалі ў падручніках. Хутка тыя двое адступіліся ад дзвярэй, прапускаючы Янку Купалу, а тады і самі ўслед за ім вярнуліся ў памяшканне. Антон у нерашучасці стаяў на вуліцы, пазіраючы на дзверы, за якімі знік Янка Купала. Антонава рука пацягнулася ў кішэню пінжака, намацала там акуратна складзеныя лісты паперы з вершамі. Вось ён зойдзе ў гэты дом, а там нехта пакажа яго вершы Янку Купалу. Учора, заўчора, нават яшчэ сення да гэтай вось хвіліны Антон лічыў вершы добрымі, а цяпер уся тая яго ўпэўненасць раптам прапала. Ён памалу павярнуўся і гэтак жа памалу паплёўся назад, у свой інтэрнат, у нізкі, як стары хлеў, але доўгі барак з вузкім цёмным калідорам і няўтульнымі пакоямі, шчыльна застаўленымі паржавелымі жалезнымі ложкамі.

Але пануры настрой хутка пакінуў Антона. У думках яго паўстала постаць чалавека ў калелюшы, з кійком у руцэ. Антон з ім не тое што не пазнаёміўся, не перакінуўся словам, а толькі мімаходзь пабачыўся, але на душы ў яго такое адчуванне, быццам адбылося штосьці незвычайнае.

Пасля ён хваліўся таварышам, што бачыў Янку Купалу, расказваў, дзе гэта было. Прыйшла думка прачытаць усё, што напісаў Янка Купала. Пайшоў у бібліятэку, узяў яго кнігу. Пачатак навучальнага года для навічкоў заўсёды нялёгкі, пакуль яны ўвойдуць у

Проза

Алесь АСТАШОНАК

# НА РАДЗІМЕ

МРОЯ



Старшыня Мінскага аддзялення Саюза славянскіх пісьменнікаў пры Магілёўскім крайвыканкаме Анатоль Сідарэвіч прымаў ва ўнутраным дворыку Дома літаратара імя Лукі Бэндэ дэлегацыю бурундзійскіх майстроў прыгожага пісьменства.

Саму будыніну займалі службы Усеславянскага камітэта.

Слотны быў гэты сакавіцкі дзень, але шаноўных гасцей дый гаспадароў, хоць яны да ўсяго ўжо прызвычаіліся, зберагала ад холаду альтанка, збудаваная з "вагонкі" на днях, у сувязі з прыездам высокай дэлегацыі, па загадзе адказнага сакратара аддзялення Анатоля Жалязоўскага. Нават больш, руплівы сакратар паклапаціўся за дзень да прыезду бурундзійцаў аб тым, каб альтанку абцягнулі поліэтыленавай плёнкаю. Плёнку даставаў памочнік адказнага сакратара Анатоль Сыс, цвічкі, каб яе прымацаваць, прывёз з няблізкае камандзіроўкі ажно ў Рудзенск другі памочнік — Анатоль Клышка. Прымацоўваў яе, а цяпер вёў пратакол мінска-бурундзійскіх літарацкіх перамоў Віктар Анатольевіч Шніп, сакратар Саюза па творчых пытаннях.

У складзе дэлегацыі былі: чорны як беларуская ноч старшыня Саюза бурундзійскіх пісьменнікаў Нгункуотва Сампэква ды крыху смуглявы (пасля чарговага адпачынку на Сайшэлах) вядучы тамтэйшы паэт Дранкуотва Майсэква, аўтар тузіна зборнікаў паэзіі і эсэ на "беларускім дыялекце адзінарускай мовы" і двух тузінаў — на кірундзі.

Аднак не будзем кідаць цень на слыннага версіфікатара: гэта ён адно для гаспадароў, а дакладней, паводле пратаколу, лічыўся "писаўшым кагда-та на дзиалекце". Сам пацямнелы Дранкуотва Майсэква справядліва лічыў сябе ў душы беларускім паэтам, але і ён не мог тут уголас заявіць аб сабе, як аб такім — змушалі варункі, у якіх праходзіла афіцыйная сустрэча. Дранкуотва Майсэква выявіў некалі вялікую палітычную абачлівасць, дабіўшыся ад ЮНЕСКА камандзіроўкі ў далёкую афрыканскую краіну, каб дапасці да такой няпростай навукі — асвойтаць мову кірундзі, на якой цяпер ён гэтак пасьпяхова пісаў не толькі пра бязмежныя прасторы саваны, але і пра самотна-васільковую былую сваю Бацькаўшчыну...

Усё здарылася праз год, акурат тады, як скончалася ягоная камандзіроўка...

І вось цяпер ён — славуты бурундзійскі паэта, сябра Міжафрыканскага кангрэсу незалежных літаратараў і ганаровы прафесар Сарбоны, стомлены Парыжам дашчэнту, гэтак часта даводзілася яму там бываць, бо выкладаў жа не толькі курсы кірундзі і літаратур краін Экватарыяльнай Афрыкі, але і беларускі факультатыў.

Колькі ж гадоў не быў ён на Радзіме!..

Колішнія сябры з цяжкасцю пазнавалі адзін аднаго.

Так ужо кідка адрозніваліся цяперашнія іхнія фізічная знешнасць, вопратка і ўнутраны дух, што й апісваць задоўга няварта: чытачу няцяжка будзе ўявіць мажнага дэндзі ці то з Бужумбуры, ці то з Парыжа (пры ўсёй сваёй сытасці ён не толькі захаваў, але і памножыў духоўнасць) у параўнанні, прыкладам, са знямоглым, зношаным (і з твару, і з цела, і з вопраткі) валожынскім тубыльцам Шніпам, які дабіраўся на працу ў аддзяленне раз на тыдзень пешкі, з торбачкаю за плячыма (рукапісы, падмацунак), сілкуючыся па дарозе зжаўцелым салам, якое па-сяброўску дасылаў яму з-пад Клецка і сам не надта наеты тамтэйшы саўгасны электрык Лявон Галубовіч. Свайго сала Шніпу, дужа занятаму творчаю працаю, і блізка не хапала, а вось Лявон, завіхаючыся пераважна на зямлі, мог нават і былому свайму калегу крыху дапамагчы. Духоўнасць, праўда, і Шніп памножыў, і духоўнасць тая была асаблівага кшталту, але варункі змушалі ўтойваць і яе.

Раскрываўся ён адно дома, сам-насам з кнігамі ды схаваным у падпечку бел-чырвона-белым сцяжком. Даўно ўжо ён быў самотны: спадарожніцу ягоную, Людмілу Урублеўскую, выслалі з рэспублікі адразу пасля таго, як разгарнуліся адначасна з заканчэннем бурундзійскай камандзіроўкі абачлівага паэта тыя самыя падзеі...

З'ехаў сам, думаў, гледзячы на прафесара Сарбоны, насуплены Шніп, з'ехаў да таго, і вось цяпер тутака, а мая гаротная... Ягоная гаротная пісала цяпер беларускія вершы ў Славаччыне, з якою рэспубліка парвала адносіны яшчэ да разгортвання падзей, як з "агалцела" празаходняй краінаю, і магчымасці прыехаць да свайго чалавека, будучы персонаю нон грата, не мела.

"Якая прага жыцця, якая здольнасць да выжывання! — думаў, тужліва-зайздросна пазіраючы на дахадзягу-сакратара саюза па творчых пытаннях (у чым толькі душа трымалася!), мала не знепрытомнелы ад Парыжа мэтр. — І тут, грэх кпіць, пралез у квартэт Анатоляў... Дзіва што: Анатольевіч..."

А дзе ж цяпер астатнія?

О, як хацелася даведацца пра астатніх!

Ды толькі пачуў ён ад асцярожнага старшыні аддзялення, калі засталіся яны сам-насам на невялічкі час, што:

працуе цяпер тэлевізійным майстрам у Смаргоні Някляеў;

лётае на "кукурузніку" ў міжабласной авіяцыі Скарынкін;

раскулачаны і пазбаўлены грамадзянскіх правоў яго спракаветны сябра фермер-паэт Пісарык;

выкладае літоўскую мову на Алясцы эскімосам Разанаў;

там жа пастрыгся ў манахі Алеуцкай праваслаўнай царквы Сёмуха;

каторы ўжо год хаваецца ў полацкіх лёхах Арлоў;

затаіўся ў "Навінках", выдаючы сябе за старшыню тэрміналагічнай камісіі універсальнай энцыклапедыі хітрамудры Конан;

высланыя ў Кыргызстан Дубавец з Глобусам;

Скобелева і Дашкевіча ўнеслі ў кнігу рэкордаў Гінэса: у іхнім узросце сталі пераможцамі Уімблдона ў парным разрадзе;

рэдагуе "ЛіМ" на "западным дзиалекце" Пятровіч, намагаючыся хоць што неўпрыкметку "правесці" ды пастаянна рызыкуючы свабодаю;

даўно ўжо не ведаюць тае свабоды пасаджаныя Чаропка, Пацюпа, Чобат і Вераціла — паняволілі іх за адныя ўжо прозвішчы, — не кажучы пра Адамовіча;

Акудовіч навучае на Алтаі злодзеяў-"дамушнікаў" асновам альпінізму;

Асташонку ж дык увогуле — мову адняло.

Пра тое, што Зуёнак з Пісьмянковым абвясцілі галадоўку ў Нью-Йорку насупраць усеславянскага консульства і што Бугаёў з дапамогаю Супрунчука захапіў у Бярэсці самалёт, але трапіў, на шчасце, у рукі польскага правасуддзя, паэт даведаўся яшчэ ў Бужумбуры.

Было тут над чым падумаць.

Да альтанкі, кульгаючы, дабраўся Жалязоўскі.

І гэтым разам удалося яму выканаць заданне Сідарэвіча.

Апошнім часам налаўчыўся ён вылоўліваць у Свіслачы, зусім непадалёк, цераз парк, якую рыбіну — адну-дзве на дзень, — і цяпер яму пашчасціла назапасіць малькоў на абед гасцям. Праўда, старшыня Усеславянскага камітэта абвясціў нядаўна забарону на рыбацтва ў павятовых гарадах, і Жалязоўскаму даводзілася хітрыць, хаваючыся за дрэвам і хмызнякамі. Аднак нарэшце не пашэнціла і міліцыянт прастрэліў яму нагу як браканьеру. Але галоўнае, удалося ўцячы — і бурундзійцаў ёсць чым пачаставаць. Нават больш, дападны Клышка дастаў у той самай далёкай рудзенскай камандзіроўцы пляшку буракоўкі. Файны будзе стол! Тым больш, што Сыс не п'е. Кінуў, як кончылі разгортвацца падзеі, бо займеў благую звычку раўсці нападпітку, што ён найвыдатнейшы беларускі паэта, а гэта ўжо пагражала... нават Сыс у хранічным ачмурэнні скеміў, чым, надта ж не хацеў развітвацца ні з Бацькаўшчынаю, ні з воляю. І вось цяпер — памочнік самога Жалязоўскага.

Жалязоўскі прайшоў у альтанку, шчасна ўсміхнуўся, паставіў на стол пляшку. Услед за Жалязоўскім паважнай хадою ўвайшоў Сыс, урачыста ўнёс каструлю юшкі. Шніп дастаў з аблезлага партфеля, які закрываўся прышчэпкамі для бялізны, бурак са свайго гароду. Буракі цяпер, каб эканоміць газ, прызвычаіліся есці сырымі. Падумаўшы, Шніп адшкадаваў і тры, з галубовічаўскіх градак, цыбуліны, якія так бярог на дарогу, пад зжаўцелае сала. Рукі ў яго прыкметна дрыжэлі. У спалучэнні з зіхоткімі вачыма Клышкі, рахманай, на ўвесь твар, усмешкаю Сідарэвіча, алімпійскай паставаю Сыса і мройным позіркам параненага Жалязоўскага атрымлівалася адмысловае відовішча, якое няблага было б засняць для бужумбурскай газеты, падумаў Дранкуотва Майсэква, ды шкада — здымаць забаронена.

Бурундзійскі паэта пракаўтнуў кілішак — і ажно камяк у горле захрас.

О згадкі!..

Шніп падаў яму, як госцю, бохан зберажонага чэрствага хлеба, што ляжаў увесь час на стале, аздабляючы перамовы, Сыс — цыбуліну. Ад урачыстасці моманту ў гаспадароў пачаўся нервовы цік. Аднак рахманая ўсмешка Сідарэвіча, які ўважліва сачыў за ўсімі маніпуляцыямі былога суайчынніка, яшчэ больш палагоднела.

Па шчацэ ў прафесара Сарбоны пакацілася сляза.

Дык каму зайздросціць, бядотна думаў ён у стамленні Парыжам, мне — ці гэтаму галадранцу Шніпу?..

Са смакам кракнуўшы пасля кілішка, Сідарэвіч завёў гамонку.

Міліцыянт за рогам уздрыгнуў і напружыў слых.

Старшыня аддзялення пачаў распытваць Жалязоўскага, што здарылася ў аддзяленні за час перамоваў.

Аддзяленнем цяпер лічылася тэрыторыя ўнутранага дворыка, а таксама — паўафіцыйна — ганак пад навесам.

Жалязоўскі адказаў, што прыходзіў Анатоль Кудласевіч, прасіў дапамагчы прыдбаць апошні нумар "ЛіМа" з ягоным вершам пра славянскую еднасць (з падтэкстам, які мужна правёў нязломны Пятровіч).

Кіроўцы аддзялення пераглянуліся. Сыс падміргнуў: Анатоль жа. І Жалязоўскі важна кіўнуў яму ўслед.

Вымеркуем, цвёрда сказаў Сідарэвіч. У вачах яго запаліліся агеньчыкі, твар пасур'ёзнеў, перастаў блукаць позірк.

Бурундзійскі паэт Дранкуотва Майсэква, патрыёт Бацькаўшчыны, не мог яшчэ ведаць, што старшыня аддзялення Анатоль Сідарэвіч, ён жа Анатолюс Сідаравічус, — агент летувіскай разведкі. Як і ўсе астатнія — найсапраўдныя змагары, апошнія з магікан Дома літаратара яшчэ без імя Бэндэ.

Павел САКОВІЧ

# ЭПІГРАМЫ, ЯК РЭКЛАМЫ

## ВІКТАР ВУЯЧЫЧ

**Не спіцца штосьці ветэрану —**
**Цярпець не можа ён падману!**
**"Зяваць, як рыба, пад "фанеру"?**
**Ніхто не дасць мне потым веры!**
**Ды і нашто "фанера" тая,**
**Калі ў мяне душа спявае!"**

## ВАЛЯНЦІНА ГАЯВАЯ

**Павысыпалі, як гарошкі,**
**На сцэну мілыя "Харошкі"...**

**Калі ж ударыць Валя ножкай,**
**То затрасуцца ўсе патрошку,**
**А топне як яна другой —**
**Заскачуць дружнаю гурбой.**

**Як кажуць, строгая такая**
**Ў рабоце Валя Гаявая...**
**Яна ж здаецца ветэранкай мне,**
**Бо толькі танцы ёй наўме!**

## РЫГОР БАРАДУЛІН

**Ён піша вострa і калюча**
**На ўсіх знаёмых эпіграмы.**
**Укол ягоны хоць балючы,**
**Затое ж і карысны самы!**

## ІВАН МІСКО

**Ён творча вельмі пладавіты!**
**За год ці два ўсяго — глядзі ты! —**
**Аж пяцярых хлапцоў зрабіў,**
**Адзеў, абуў і ў свет пусціў.**

**Іван так імі ганарыцца,**
**Глядзіць, ніяк не наглядзіцца!**
**Імкнецца ў Жодзіна да іх —**
**Адведаць, як сыноў сваіх...**

**Таму Івана не знянацку**
**Я назаву героем-бацькам!**

## БАРЫС ЛУЦЭНКА

**Усе мяркуюць, што на "біс"**
**Ён у тэатр свой вярнуўся...**
**Цар сцэны, вопытны Барыс,**
**На троне зноўку апынуўся.**

**Народ жа ў зале не маўчыць:**
**"Відовішч!" — моліць ён Барыса.**
**А той пажадліва бурчыць:**
**"Падкіну трошкі... бенефісаў".**

**Як бачыце, ў яго зусім**
**Жыццё — не пернік, і не з горкі...**
**Калі б жывы быў сам Максім,**
**Яму б не "брава" крыкнуў —**
**"горка"!**

## АНАТОЛЬ КУДРАВЕЦ

**Ён шэсцьдзесят ужо адмераў:**
**Але сябры яму не вераць:**
**"На вушы кінь лапшу чапляць! —**
**Ну, два па трыццаць можна даць..."**
**А ён прыжмурыцца: "Вы што...**
**Давайце лепей два па сто!"**

## АНСАМБЛЬ "СЯБРЫ"

**"Сябры" сябруюць не з усімі:**
**Паміж сабой і з песнямі сваімі.**
**Іх не прымусіш сябраваць,**
**Як не прымусіш не спяваць.**

## АЛЕСЬ ЖУК

**Такі бяскрыўдны ён жучок,**
**Але ж — зусім не працячок!**
**Над "Полымем" віецца ён,**
**А крылы не абпёк агонь!**

## ЛЮДМІЛА БРЖАЗОЎСКАЯ

**Адметны шлях прайшла яна —**
**Ад А. Карэліна да Траяна...**
**Ды не, сказаў няўдала я:**
**Людміла — балерына сталая!**
**Для тых, з кім сябравала і жыла,**
**Сама —**
**прыкметнай вехаю была!**


ЛіМ ЛІТАРАТУРААМАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7332.
Нумар падпісаны 2.5.1996 г.
Заказ 2172/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12